

# БОГ ГАВОРЫЦЬ ДА СВАІХ ДЗЕТАК

## Біблейскія апавяданьні

# БОГ ГАВОРЫЦЬ ДА СВАІХ ДЗЕТАК

## Біблейскія апавяданьні

Выданьне зробленае на заказ
міжнароднай каталіцкай дабрадзейнай арганізацыі
**„Царква ў патрэбе"**



EDITORIAL VERBO DIVINO
Avda. de Pamplona, 41
31200 ESTELLA (Navarra) - España
1996

На пярэдняй бачынцы вокладкі:
Бацька і блудны сын (№ 73)

На апошняй бачынцы вокладкі:
Уцёкі ў Ягіпет (№ 50)
Перамяненьне (№ 67)
Ісус вяртае да жыцьця сына ўдавы з Наін (№ 62)
Апошняя вячэра (№ 80)

2.ª edición

Тэкст: Элеанора Бэк. Ілюстрацыі: Мірэн Сорнэ. Аўтарскія правы Міжнароднай каталіцкай дабрадзейнай арганізацыі „Царква ў патрэбе''. ФРГ. З дазволу царкоўнае ўлады. Фотакампазыцыя: Япіскапскае выдавецтва ў Любліне – Польшча.
Друк: Mateu Cromo, S.A., 28320 Pinto (Madrid).

Depósito Legal: M-115-1997
ISBN: 84-7151-819-8

Edición en Bielorruso (Bbel/2)



# З КНІГ СТАРОГА ЗАПАВЕТУ

## ПАЧАТКІ

### 1. Бог творыць сьвет

Напачатку Бог стварыў неба і зямлю. Зямля была неўпарадкаваная і пустая, і Дух Божы лунаў над водамі.

Бог сказаў: Хай будзе сьвятло! І стала сьветла. Бог бачыў, што сьвятло было добрае. Ён аддзяліў сьвятло ад цемры і сказаў сьвятлу: Будзеш днём. А цемры сказаў: Будзеш ноччу. Так мінуў першы дзень.

Бог сказаў: Хай зьбяруцца ўгары хмары, і хай падае з іх дождж на зямлю. А ўнізе хай воды

зьбярущца, каб паказалася сухая зямля. Бог сказаў абсягу, што над хмарамі: Будзеш небам. А сухой паверхні ўнізе сказаў: Будзеш зямлёй. А вадзе, што сабралася разам: Будзеш морам. Бог бачыў, што неба і зямля, хмары і суша былі добрыя. Так мінуў другі дзень.

Бог сказаў: Хай народзіць зямля розныя травы і дрэвы. І вось павырасталі расьліны ўсякага роду і зямля пакрылася зеленьню. Бог бачыў, што гэта добра. Так мінуў трэці дзень.

Бог сказаў: Хай зазьзяюць сьветачы на небе – сонца ўдзень, месяц і зоркі ўночы. Яны будуць паказваць час: дзень і ноч, тыдзень і месяц і поры году. Бог бачыў, што гэта добра. Так мінуў чацьверты дзень.

Бог сказаў: Хай у вадзе плаваюць рыбы, птушкі хай лётаюць у паветры, а на зямлі хай зьявяцца ўсякія роды зьвяроў вялікіх і малых. І так сталася. Бог бачыў, што гэта добра. І вось мінуў пяты дзень.

Тады сказаў Бог: Створым чалавека на Наш вобраз і падабенства. Дамо яму ўладу над зямлёю і ўсімі рыбамі, птушкамі, зьвярамі і расьлінамі. Бог стварыў чалавека на сваё падабенства. Стварыў Ён мужчыну і жанчыну. Г паблаславіў іх, кажучы: Будзьце пладавітыя і размнажайцеся. Аддаю вам зямлю. Вы большыя за рыб, птушак, зьвяроў і расьліны. Апякуйцеся і валодайце імі. Расьліны будуць ежаю для вас і для зьвяроў. Бог бачыў, што ўсё створанае Ім было добрае. Так мінуў шосты дзень.

Бог стварыў за шэсьць дзён увесь сусьвет: неба, зямлю, мора і ўсё жывое. На сёмы дзень Бог адпачыў. Таму сёмы дзень для людзей сьвяты. (Быцьцё 1)

## 2. Бог дае людзям рай

Бог зрабіў першага чалавека, Адама, з пылу



зямлі, удыхнуў у яго дух жыцьця, і чалавек стаўся жывой істотаю.

Тады Бог насадзіў сад у Эдэме і загадаў узрасьці там многім дрэвам. Усе дрэвы былі прыгожыя на выгляд, а іх плады смачныя. Пасярод раю расло дрэва пазнаньня дабра і зла.

Бод пасяліў чалавека, якога стварыў, у раі, каб той яго даглядаў і ахоўваў. Ён сказаў яму: Можаш есьці плады з усіх дрэваў. Толькі пладоў з дрэва жыцьця і дрэва пазнаньня дабра і зла не чапай, каб не памерці. Калі пакаштуеш іх, памрэш абавязкова.

Бог не хацеў, каб чалавек быў адзін. Ён прывёў да Адама ўсіх зьвяроў і птушак, і Адам даў ім імёны. Сярод іх аднак не знайшлося ніводнай істоты роўнай яму. Тады Бог наслаў глыбокі сон на чалавека. Узяўшы адну рабрыну з ягонага боку, Ён зрабіў з яе жанчыну. Убачыўшы яе, Адам усклікнуў: Яна зусім такая, як я! Мужчына і жанчына былі голыя, але яны не саромеліся адно аднаго. (Быцьцё 2)

## 3. Людзі губляюць рай

Мужчына і жанчына жылі ў раі, які даў ім Бог. Там было ўдосталь ежы. Яны жылі ў згодзе з жывёламі і былі шчасьлівыя, бо Бог быў іхнім прыяцелем. Усё ішло добра. Але вось аднойчы зьмяя сказала жанчыне: Ці сапраўды Бог забараніў вам есьці плады з усіх дрэваў? Жанчына адказала: Не! Мы можам есьці плады з усіх дрэваў у садзе. Толькі з дрэва, што расьце пасярэдзіне саду, мы не павінны есьці пладоў, каб не памерці. Няпраўда – адказала зьмяя, – вы не памрэце, толькі вочы вашы адчыняцца, і будзеце, як Бог, ведаць, што дабро і што зло.

Жанчына бачыла, што плады былі прынадныя на выгляд і давалі магчымасьць пазнаць многія рэчы. Яна ўзяла адзін з іх, зьела сама і дала свайму мужу. І вось адчыніліся ім вочы і яны ўбачылі, што яны голыя. Тады зрабілі яны сабе паясы з лісьця смоквы. Вечарам яны пачулі, як Бог хадзіў па садзе, і схаваліся. Бог паклікаў чалавека: Дзе ты? Адам адказаў: Я чуў Твае крокі і, спалохаўшыся, схаваўся, бо быў голы. Бог спытаўся: Адкуль ведаеш, што ты голы? Ці часам не пакаштаваў ты плоду з забароненага дрэва? Адам стараўся зваліць віну на жанчыну: Гэта яна дала мне. А жанчына апраўдвалася: Зьмяя мяне ашукала.

Тады сказаў Бог зьмяі: Паколькі ты гэта ўчыніла, будзеш праклятая. Будзеш поўзаць на жываце тваім і есьці пыл зямны. Жанчына будзе ворагам тваім. Яе дзеці будуць ворагамі тваіх дзяцей: яны скрышаць галаву тваю, а ты ўкусіш іх у пяту.

А жанчыне Бог сказаў: Цяжка будзе табе. У пакутах будзеш нараджаць дзяцей тваіх. Мужчыне ж сказаў: Паколькі ты не паслухаўся майго загаду, убачыш, што зямля – ня рай. Праз усё жыцьцё будзеш цяжка працаваць, каб пракарміць сябе і сям'ю. Тады вернешся ў зямлю, з якой быў узяты.



Адам даў жонцы сваёй імя Эва, гэта значыць жыцьцё. Яна была маці ўсіх жывых. Госпад Бог выгнаў людзей з раю і паставіў вартаўніка з агнявым мячом сьцерагчы ўваход у рай і дарогу да дрэва жыцьця. (Быцьцё 3)

## 4. Каін і Абэль

Адам і Эва мелі двух сыноў: Каіна і Абэля. Абэль быў пастухом авечак, а Каін земляробам. Каін прынёс у дар Богу як знак удзячнасьці частку пладоў працы сваёй. Абэль таксама прынёс у дары адно з ягнят. Бог глянуў прыхільна на ахвяру Абэля, а ахвяры Каіна не прыняў. Засумаваў і раззлаваўся Каін. Але Бог сказаў яму: Чаго злуешся і ходзіш, спусьціўшы галаву? Калі б намеры твае былі добрыя, ты б глядзеў усім проста ў вочы.



Калі ж думаеш дрэннае, не ўцячэш ад граху. Ён цябе зьнішчыць, калі не пераможаш яго.

Каін сказаў брату свайму: Хадзем у поле. Калі яны былі ў полі, Каін забіў свайго брата Абэля. Бог спытаўся ў Каіна: Дзе твой брат Абэль? Каін адказаў: Ня ведаю. Ці ж я сторож брата майго? Бог тады сказаў: Што ж ты зрабіў? Кроў брата твайго пралілася на ральлю. Ты больш ня можаш быць земляробам, бо зямля ня дасьць табе плоду. Ты страціў бацькаўшчыну. Будзеш бадзяцца з месца на месца, не знаходзячы супакою.

Каін сказаў: Кара мая непамерна цяжкая. Ты праганяеш мяне з маёй зямлі і ад Сябе, робіш мяне бяздомным выгнаньнікам. Кожны, хто мяне сустрэне, можа забіць мяне. Але Бог паклаў на чало Каіну кляймо, каб яго ніхто не забіў. (Быцьцё 4:1–15)

## 5. Ной і патоп

Бог бачыў, што людзі, якіх Ён стварыў на свой вобраз, былі поўныя благіх намераў і рабілі нядобрае. Зямля напоўнілася агіднасьцю. Бог пашкадаваў, што стварыў чалавека. Ён сказаў: Вынішчу людзей, якіх Я стварыў, а з імі зьвяроў і ўсё жывое на зямлі.

Ной жыў у прыязьні з Богам. Таму Бог хацеў выратаваць Ноя і яго сям'ю, вызваляючы яго ад Свайго прысуду. Бог сказаў Ною: Збудуй сабе з дрэва каўчэг, каб ён мог плаваць па вадзе быццам вялікі карабель. Я навяду вялікі патоп на зямлю. Усё жывое згіне ў вадзе. Толькі ты і тыя, што будуць з табою ў каўчэгу, застануцца жывыя.

Ной і сыны ягоныя пачалі будаваць каўчэг, як загадаў Бог. Унутры яны зрабілі шмат перагародак, каб узяць з сабою па пары ад усіх зьвяроў, бо так



загадаў Бог. Скончыўшы будаваць каўчэг і нарыхтаваўшы ўдосталь прыпасаў, Ной увайшоў у яго, а з ім сыны ягоныя і іхнія сем'і. Узялі яны з сабою таксама па пары ад кожнага роду зьвяроў на зямлі. Бог зачыніў за імі дзьверы каўчэга.

І вось пачаў ісьці дождж. Вада пакрыла ўсю зямлю. Усе зьвяры патанулі, людзі таксама. Птушкі не маглі знайсьці дрэва, каб на ім сесьці. Усё жывое згінула на зямлі. Толькі Ной і тыя, што былі ў каўчэгу, засталіся жывыя.

Пасьля сарака дзён дождж перастаў. Калі вада пачала ападаць, Ной спачатку выпусьціў крумкача, але той вярнуўся хутка ў каўчэг. Праз тыдзень Ной выслаў галубку, і яна таксама вярнулася. Счакаўшы яшчэ тыдзень, Ной выпусьціў другую галубку, і яна вярнулася, прынёсшы з сабою аліўкавую галінку. Крыху пасьля Бог сказаў Ною: Можаш сьмела выходзіць з каўчэгу, ты і ўсе, што з табою. Людзі і зьвяры выйшлі з каўчэгу і для ўсіх пачалося новае жыцьцё. Ной аддаў падзяку Богу і прынёс Яму ахвяру.

Бог сказаў Ною: Хачу заключыць саюз з вамі – з людзьмі і зьвярамі. У гэтым саюзе са Мною будзеце жыць ты і ўсе твае нашчадкі. Абяцаю, што ўжо больш ніколі не навяду патопу, каб вынішчыць усё жыццё на зямлі. (Быцьцё 6–9)

# ПАТРЫЯРХІ

## 6. Бог кліча Абрагама

Абрагам быў пастухом. Бог сказаў яму: Зьбірайся ў дарогу! Пакінь тваю бацькаўшчыну і радню і дом бацькі твайго. Ідзі ў краіну, якую Я табе пакажу. Я выведу з цябе вялікі народ. Паблаславўлю цябе і ўслаўлю імя тваё. Усіх, што жадаюць



дабра табе, пабласлаўлю. Пракляну тых, што цябе ненавідзяць. Усе народы атрымаюць блаславеньне праз цябе.

Абрагам выбраўся ў дарогу, як загадаў Бог. Яму было тады семдзесят пяць гадоў. Ён узяў з сабою сваю жонку Сару і пляменьніка Лота, а таксама ўсю жывёлу, што належала яму, і людзей, якія ў яго працавалі. Абрагам пайшоў у краіну, якую Бог абяцаў даць яму і ягоным дзецям. Гэта была багатая і ўрадлівая зямля Ханаанская. Абрагам збудаваў там ахвярнік Богу. (Быцьцё 12:1–8)

**7. Бог заключае саюз з Абрагамам**

Адной ночы Бог гаварыў з Абрагамам. Ён сказаў яму: Ня бойся, Я буду тваім абаронцам і зраблю цябе багатым. Абрагам адказаў: Нашто мне багацьці, калі Ты мне адмаўляеш у найважнейшым. Ня маю сына, які быў бы маім спадкаемцам і прадаўжальнікам майго імя. Тады Бог загадаў

Абрагаму выйсьці з палаткі і сказаў: Глянь на неба і палічы зоркі на ім, калі можаш. Дык вось, у цябе будзе столькі нашчадкаў, колькі зорак у небе. Абрагам паверыў Богу, і Бог адобрыў ягоную веру.

Абрагам паставіў сваю палатку каля дубровы Мамрэ. Аднаго дня ў поўдзень ён сядзеў пры ўваходзе ў палатку і ўбачыў трох мужоў, якія ішлі да яго. Абрагам устаў і пабег ім насустрач, кажучы: Не мінайце маёй палаткі. Хадзеце, адпачнеце крыху. Абрагам пачаставаў падарожнікаў маслам і малаком, мясам і хлебам. Пасіліўшыся, адзін з падарожнікаў спытаўся: Абрагам, дзе твая жонка Сара? Яна ў палатцы – адказаў Абрагам. Падарожнік сказаў: Прыйду зноў праз год, калі Сара народзіць сына.

Сара ў палатцы чула, што сказаў падарожнік. Яна засьмяялася і падумала: Ён, мусіць, ня ведае, што я старая і Абрагам таксама ў гадох. Але падарожнік, пачуўшы яе сьмех, спытаўся: Ці ж ёсьць што немагчымае ў Бога? (Быцьцё 15:1–8; 18)

## 8. Вера Абрагама

Бог споўніў сваё абяцаньне. Сара, нягледзячы на свае гады, .нарадзіла сына. Абрагам у старым веку стаўся бацькам і атрымаў насьледніка. Сара і Абрагам далі сыну імя, якое сам Бог выбраў для яго: Ісаак, што значыць: Хай Бог усьміхаецца. Ісаак рос і мужнеў.

Бог хацеў выпрабаваць Абрагама. Ён сказаў яму: Устань, вазьмі твайго адзінага любага сына і прынясі яго мне, як цэлапальную ахвяру. Раніцай Абрагам зацугляў асла, наклаў на яго дроў і паклікаў сваіх слуг і сына. Яны ішлі тры дні аж да гары. Там Абрагам пакінуў слуг і асла, кажучы: Застаньцеся тут, а Ісаак і я ўзыдзем на гару. Памаліўшыся і прынёсшы ахвяру, вернемся назад.



Абрагам усклаў дровы на Ісаака, а сам узяў у рукі нож і агонь. Ісаак сказаў: Войча, маем дровы і агонь, а дзе ж ахвяра? Бог паклапоціцца аб ахвяры, адказаў Абрагам. Узышоўшы на гару, Абрагам збудаваў з камянёў ахвярнік і расклаў дровы. Тады ён зьвязаў сына свайго Ісаака, паклаў яго паверх ахвярніка і ўзяў у руку нож. У той час пачуўся голас: Абрагам! Не рабі нічога дрэннага хлопцу! Ты паказаў тваю веру і паслухмянасьць Маім загадам, будучы гатовым прынесьці ў ахвяру твайго адзінага сына Ісаака.

Абрагам глянуў вакол і ўбачыў барана, які заблытаўся рагамі ў кусьце. Ён паклаў яго на ахвярнік і прынёс у ахвяру Богу. Тады ён зышоў з гары разам з Ісаакам. (Быцьцё 22)

## 9. Ісаак, Ісаў і Якуб

Ісаак атрымаў у спадчыну статкі Абрагамавы і ягоных слуг і служанак. Атрымаў таксама і бласла-

веньне Божае. Ягоная жонка Рэбэка ня мела дзяцей, але Ісаак памаліўся Богу і Бог пачуў яго. Рэбэка нарадзіла двух сыноў. Хоць і блізьняты, яны былі вельмі непадобныя адзін да аднаго. Першы з іх меў валасы на руках і нагах. Бацькі далі яму імя Ісаў. Другі, якому далі імя Якуб, меў гладкае цела. Калі Ісаў вырас, ён стаўся выдатным паляўнічым. Якуб быў больш спакойнага характару і трымаўся бліжэй палаткі бацькоў. Ён быў пастухом і земляробам. Ісаак больш любіў Ісава, бо быў аматарам смажанай дзічыны. Рэбэка больш любіла Якуба.

Аднойчы Якуб зварыў суп з сачэўкі. Ісаў вярнуўся дамоў галодны і змучаны. Ён сказаў брату: Дай мне крыху гэтага чырвонага супу. Якуб адказаў: Перш прадай мне тваё права першанароджанага. Ісаў падумаў: Калі памру з голаду, якая карысьць мне з першародства? І з клятваю прадаў брату сваё права. Толькі тады даў яму Якуб хлеба і супу.Ісаак састарыўся і ня мог добра бачыць. Аднойчы ён сказаў Ісаву: Ідзі прынясі дзічыны, звары з яе мне смачную страву і я дам табе блаславеньне Божае. Рэбэка чула словы Ісаака. Ёй хацелася, каб Якуб атрымаў бацькава блаславеньне. Дзеля гэтага яна загадала яму прынесьці двух казьлянят. Сасмажыўшы мяса, яна абкруціла рукі і шыю Якуба шкурамі казьлянят і паслала яго са страваю да Ісаака.

Ісаак пачуў крокі і спытаўся: Хто гэта? Гэта я, Ісаў, – адказаў Якуб. – Я прынёс табе смажаніну, каб ты, паеўшы, даў мне блаславеньне, як абяцаў. Ісаак выцягнуў руку, каб дакрануцца да сынавага пляча, але супакоіўся, намацаўшы шкуры казьлянят. Ён паблаславіў Якуба, кажучы: Хай Бог дасьць табе ўсё, што ты патрабуеш на зямлі. Хай будзе блаславёны той, хто бласлаўляе цябе!

Хутка пасьля гэтага вярнуўся Ісаў з паляваньня і, прынёсшы бацьку сваю страву, папрасіў бласла-



веньня. Тады Ісаак зразумеў, што Якуб ашукаў яго. Ён ня мог аднак забраць назад блаславеньня. Разгневаны Ісаў сказаў: Калі памрэ наш бацька Ісаак, заб'ю Якуба. Рэбэка пачула гэта і сказала Якубу: Уцякай адсюль да твайго дзядзькі Лабана ў Харан. Там чакай, пакуль міне гнеў Ісава.

Якуб прыйшоў да Лабана. Ён працаваў у Лабана пастухом. Адначасова ён даглядаў і сваіх авечак. Там ён ажаніўся і меў дзяцей.

Пасьля дваццаці гадоў Якуб з сям'ёй вярнуўся ў Ханаан. Па дарозе ён затрымаўся на начлег ля ракі Яббок. Ён пераправіў усю сваю маёмасьць на другі бок ракі, а сам застаўся адзін. У тую ноч Нехта прыйшоў і змагаўся з Якубам да раніцы. Пасьля Ён паблаславіў Якуба і сказаў: Ад гэтага часу тваё імя будзе не Якуб, а Ізраіль, што значыць: Змагар з Богам. Бо ты змагаўся з Богам і людзьмі і перамог.



Якуб памірыўся са сваім братам Ісавам. Ён жыў у краіне Ханаан і меў дванаццаць сыноў. Вось імёны іх: Рубэн, Сямён, Леві, Юда, Ісакар, Забулён, Язэп, Бэніямін, Дан, Нэфталі, Гад і Ашэр. Яны былі патрыярхамі Ізраільскага народу. (Быцьцё 25–35)

## 10. Язэп у Ягіпце

Якуб любіў Язэпа больш за ўсіх іншых сваіх сыноў. Ён падараваў яму прыгожы шматкаляровы плашч. Іншыя браты напоўніліся зайздрасьцю. Аднойчы Якуб паслаў Язэпа да сваіх братоў, якія пасьвілі авечак. Убачыўшы яго, яны схапілі яго і ўкінулі ў пустую студню, дзе не было вады. Перш намерваліся яны забіць яго, але ўканцы прадалі яго чужым купцам за дваццаць сярэбранікаў. Пасьля браты разарвалі на шматкі вопратку Язэпа, акрапілі яе крывёю ягняці і паслалі праз пасланца Якубу. Якуб адразу пазнаў вопратку і паверыў, што

дзікі зьвер напаў на Язэпа і забіў яго. Ён плакаў доўга па сваім любым сыне.

Купцы прывялі Язэпа ў Ягіпет і там яго прадалі. Купіў яго адзін высокі дастойнік ягіпецкі, які называўся Путыфар. Але Бог быў з Язэпам. Путыфар зрабіў яго распарадчыкам у сваім доме. Жонка Путыфара хацела спакусіць яго. Калі Язэп не паддаўся яе намовам, яна абвінавапіла яго несправядліва перад мужам. Путыфар пасадзіў Язэпа ў вязьніцу. У той вязьніцы сядзелі таксама пекар і стольнік Фараона. Яны расказалі Язэпу свае сны, і ён разгадаў іх значэньне: стольнік будзе вызвалены і адноўлены на сваёй пасадзе, а пекар будзе асуджаны на сьмерць. Усё сталася так, як сказаў Язэп. (Быцьцё 37; 39–40)

## 11. Якуб і сыны ідуць у Ягіпет

Праз два гады пасьля гэтага здарэньня фараон, кароль Ягіпту, меў сон. Ён раіўся з усімі вучонымі краіны і варажбітамі, але ніхто ня мог разгадаць ягонага сну. Тады стольнік ягоны ўспомніў пра Язэпа. Ён сказаў Фараону: У вязьніцы сядзіць гэбрайскі юнак, які праўдзіва разгадаў мне і пекару значэньне нашых сноў. Фараон загадаў паклікаць Язэпа. Ён расказаў яму свой сон: сем здаровых адкормленых кароў выйшлі з ракі, а за імі сем худых. Худыя каровы зьелі адкормленых. Пасьля сем поўных каласоў вырасьлі на адным сьцябле, а з імі сем пустых і сухіх, і гэтыя апошнія зглумілі першых. Язэп сказаў Фараону: Бог паказаў табе тое, што мае здарыцца. Перш будзе сем добрых гадоў, з тлустай добра адкормленай жывёлай і багатым ураджаем. Тады прыйдуць сем гадоў неўраджайных і сухіх, калі нават кропля дажджу не ўпадзе на зямлю. Жывёла памрэ ад смагі. Збожжа высахне. Хачу даць табе раду: збудуй вялікія

сьвірны і пастарайся скупіць усе лішкі збожжа падчас добрых гадоў, каб мець запасы на неўрадлівы час. Фараону спадабалася рада Язэпа. Ён зрабіў яго сваім распарадчыкам. І вось калі пасьля сямі ўрадлівых гадоў ніводная кропля вады ня ўпала на зямлю, жывёла павымірала ад смагі і жніво высахла, Язэп адчыніў склады. Галодныя людзі прыходзілі здалёку, каб купіць збожжа ў Язэпа.

Якуб і ягоныя сыны таксама цярпелі голад. Якуб паслаў сыноў у Ягіпет. Язэп убачыў сваіх братоў і адразу пазнаў іх. Але яны яго не пазналі. Язэп захацеў выпрабаваць сваіх братоў. Ён загадаў пакласьці ягоную сярэбраную чашу ў мех брата Бэньяміна. Калі браты вярталіся дамоў, Язэп паслаў усьлед за імі свайго аканома. Той загадаў затрымаць іх і абвінаваціў у крадзяжы, кажучы: Чаму вы адплацілі злом за дабро? Чаму ўкралі сярэбраную чашу майго гаспадара? Браты пачалі бараніцца: Мы нічога ня ўкралі. Але шукаючы ў іхніх рэчах, слугі знайшлі чашу ў мяху Бэньяміна.

Браты вярнуліся да Язэпа ў страху. Язэп сказаў: Усе могуць ісьці апрача таго, у чыім мяху была знойдзеная чаша. Юда адказаў: Наш бацька вельмі любіць наймалодшага сына. Ён памрэ з жалю, калі нешта здарыцца з ім. Дазволь нам застацца замест Бэньяміна. Тады Язэп ня мог больш устрымацца і ўсклікнуў: Я Язэп, ваш брат. Вы прадалі мяне, жадаючы мне зла. Але Бог пераманіў усё на дабро. Гэта Яго воля, што я трапіў у Ягіпет, каб магчы цяпер ратаваць вас. Дык ідзеце хутка да нашага бацькі і вяртайцеся з ім у Ягіпет. Тут ня будзеце цярпець нястачы.

Якуб усьцешыўся ад усяго сэрца, калі пачуў, што Язэп жывы. Ён пайшоў з сынамі і іхнімі сем’ямі ў Ягіпет. Там яны пасяліліся ў краіне Гезан і гадавалі жывёлу. Пакуль трываў голад, Язэп апекаваўся сваімі братамі. (Быцьцё 41–47)

# МАЙСЕЙ ВЫВОДЗІЦЬ НАРОД У ПУСТЫНЮ

## 12. Бог збаўляе Майсея

Язэп і ягоныя браты памерлі. Іхнія сыны і ўнукі, ізраільцяне, жылі ў Ягіпце. Яны сталіся вялікім народам. Прайшло шмат часу. Новы Фараон панаваў у Ягіпце. Ён ня ведаў нічога пра тое, як дапамог Язэп егіпцянам у час вялікага голаду. Ён баяўся ізраільцянаў і сказаў: Яны моцныя і маюць шмат дзяцей. Хутка іх будзе болей за нас, егіпцянаў. Але я не дапушчу да гэтага. Перш Фараон хацеў замарыць ізраільцянаў непасільнымі работамі пры будове новых гарадоў. Пасьля ён загадаў тапіць у Ніле ўсіх нованароджаных ізраільскіх дзетак мужчынскага полу. Ён думаў, што, ня маючы больш дзяцей мужчынскага полу, народ ізраільскі хутка вымра.



Адна маці хацела ўратаваць свайго новanaроджанага сына. Спачатку яна скрывалася з ім у хаце. Пасьля трох месяцаў, ня могучы больш хаваць яго, яна спляла з чароту кошык, змазала яго смалою, каб не прапускаў вады, паклала туды дзіцятка і пусьціла кошык па вадзе пры вусьці Ніла. Яе дачка Мірыям стаяла на беразе, каб бачыць, што станецца з кошыкам.

Дачка Фараона прыйшла на раку пакупацца. Яна заўважыла кошык і загадала служанцы прынесьці яго да сябе. Убачыўшы дзіцятка, яна зьлітавалася над ім. Мірыям выйшла са свайго схովішча і спыталася: Ці хочаш, каб я паклікала жанчыну, якая можа ўскарміць дзіцятка? Дачка Фараона адказала: Так, зрабі гэта! Мірыям прывяла сваю маці. Дачка Фараона аддала ёй дзіцятка на ўзгадаваньне, даўшы яму імя Майсей.

Майсей рос і жыў у палацы. Хоць ён быў узгадаваны як егіпцянін, ён не забыўся, што належаў да ізраільскага народу, які стагнаў ад непасільнай паднявольнай працы. Аднойчы ён бачыў, як егіпцянін зьдзекаваўся з ізраільцяніна. У гневе ён ударыў егіпцяніна і забіў яго. Пасьля гэтага яму прыйшлося ўцякаць з Ягіпту. Ён знайшоў прытулак у краіне Мадыян, дзе працаваў пастухом у доме сьвятара Етра. (Выхад 1–2)

### 13. Бог пасылае Майсея

Аднойчы Майсей, ідучы з авечкамі праз пустыню, прыйшоў да Божай гары Сынай. Там убачыў ён куст, які гарэў і не згараў. Зацікаўлены, Майсей падышоў бліжэй. Раптам пачуў голас: Майсей, Майсей! Я – Бог айцоў тваіх, Бог Абрагама, Ісаака і Якуба. Майсей закрыў твар свой. Ён баяўся глянуць на Бога. А Бог казаў далей: Я ўбачыў зьдзек, які церпіць Мой народ у Ягіпце і пачуў ягоны крык роспачы. Дзеля гэтага пасылаю цябе



ў Ягіпет, каб вызваліць Мой народ. Майсей адказаў: Хто я, каб мне ісьці да Фараона і даваць яму загады? Але Бог сказаў: Я буду з табою.

Майсей запярэчыў, кажучы: Ізраільцяне мне не паверацць, калі ім скажу, што Бог айцоў іхніх паслаў мяне да іх. Яны будуць дамагацца: Скажы нам імя Яго. Што мне ім адказаць? Бог сказаў яму: Я Той Хто Ёсьць. Гэта Маё імя на ўсе часы. Майсей не хацеў згадзіцца рабіць тое, што Бог яму загадаў. Ён сказаў: Я не магу свабодна гаварыць. Бог адказаў: Ідзі! Я скажу табе, што трэба гаварыць. Майсей усё яшчэ аднекваўся, кажучы: Чаму не пашлеш каго іншага? Але Бог выбраў Майсея.

Майсей вярнуўся з сям'ёю ў Ягіпет. Ягоны брат Аарон выйшаў яму насустрач. Майсей і Аарон разам паклікалі бацькаў ізраільскіх сем'яў. Яны расказалі ім, што загадаў Бог Абрагама, Ісаака і Якуба. Ізраільцяне зразумелі, што Бог хоча іх вызваліць з няволі. Яны паверылі Богу і аддалі яму хвалу. (Выхад 3)

## 14. Адпусьці мой народ!

Майсей і Аарон пайшлі да Фараона і сказалі: Адпусьці наш народ. Бог гэтага хоча. Але Фараон ня думаў адпускаць на волю ізраільцянаў, якія працавалі для яго. Ён сказаў: Хто гэты Бог Ізраіля, якога я павінен слухаць? Ня ведаю яго і не адпушчу ізраільцянаў. Прымушу іх працаваць яшчэ цяжэй, каб ведалі, хто тут гаспадар. У той самы дзень ён даў загад наглядчыкам: Змушайце ізраільцянаў працаваць яшчэ цяжэй, каб ім не прыходзілі ў галаву розныя непатрэбныя думкі.

Ізраільцяне стагналі ад непасільнай працы. Майсей памаліўся Богу, і Бог даў абяцаньне: Я – Бог. Я выведу вас з Ягіпту. Вы будзеце Маім народам. Будзеце ведаць, што Я – Бог ваш. Я прывяду вас у краіну, якую абяцаў Абрагаму, Ісааку і Якубу, і дам яе вам у спадчыну.

Бог даў адчуць Фараону сваю магутнасьць. Розныя няшчасьці зваліліся на Ягіпет. Град пабіў збожжа ў полі, вада сталася непрыдатнай да піцьця і жывёла павымірала ад пошасьці; камары і мухі апанавалі дамы егіпцянаў; паветра было такое бруднае, што целы людзей і жывёлы пакрываліся язваю. Фараон разумеў добра, адкуль прыходзілі гэтыя няшчасьці. Некалькі разоў ён вось–вось ужо меўся вызваліць ізраільцянаў, але як толькі мінала няшчасьце, ён мяняў думку. (Выхад 5–11)

## 15. Першая Пасха

Тады сказаў Бог Майсею: Сёньня ўночы Фараон адпусьціць вас. Будзьце гатовыя да дарогі. Кожная сям'я хай заб'е ягня. Крывёю ягняці зрабеце знак на дзьвярях вашых хатаў. Надзеньце вашы падарожныя чаравікі, вазьмеце кій у рукі. Ешце сьпяшаючыся, і не пакідайце астаткаў. У гэтую ноч пам-



руць усе першародныя сыны егіпцянаў. Анёл сьмерці абміне вашы хаты, пазначаныя крывёю ягняці.

Усё сталася так, як Бог сказаў. Першанароджаныя сыны егіпцянаў памерлі ўсе: сыны бедных людзей і сын Фараона. У гэтую ноч плакалі егіпцяне па сынах сваіх. Тады Фараон паклікаў Майсея і Аарона і загадаў ім: Бярэце ўсю вашу маёмасьць і хутка ідзеце ад нас. Ізраільцяне сабраліся хутка і пакінулі Ягіпет.

Гэта была першая Пасха і народ Ізраільскі не забыўся яе. Бацькі і маткі не забыліся, што Бог захаваў іхніх першанароджаных сыноў. Ад таго часу, калі нараджаецца ў іх першы сын, яны прыносяць Богу ахвяру. Кожны год яны сьвяткуюць Пасху, або сьвята Выхаду, і выясьняюць значэньне гэтай урачыстасьці сваім дзецям, кажучы: Бог магутнай сваёй рукою вызваліў нас з ягіпецкай няволі. (Выхад 12–13)



## 16. Бог ратуе свой народ

Фараон пашкадаваў, што адпусьціў ізраільцянаў на волю. Ён склікаў сваё войска – пешых жаўнераў і калясьніцы – і пагнаўся за ізраільцянамі, якія затрымаліся станам каля Чырвонага мора. Адзін з іхніх вартаўнікоў убачыў хмару пылу і крыкнуў: Егіпцяне ідуць! Ізраільцяне амярцьвелі са страху, адчуваючы сябе быццам у пастцы: перад імі было мора, а за імі магутны вораг. Яны пачалі наракаць на Майсея: Чаму ты нас вывеў на загубу? Памрэм тут усе. Але Майсей сказаў: Ня бойцеся! Сёньня ўбачыце моц Божую.

Майсей працягнуў руку ў напрамку мора, як Бог яму загадаў. Узьняўся вялікі вецер з усходу і разагнаў ваду на два бакі. Народ ізраільскі перайшоў праз мора: мужчыны і жанчыны, дочкі і сыны, рагатая жывёла і авечкі – усе да аднаго.

Егіпцяне прыйшлі на бераг. Доўга ня думаючы, яны кінуліся наўздагон за ізраільцянамі. Але даро-

га, якою прайшоў Ізраіль з надзеяй на Бога, сталася для егіпцянаў дарогай сьмерці. Вада вярнулася на сваё месца і патапіла коней і калясьніцы і ўсё войска Фараонава. Ізраільцяне ўбачылі на ўласныя вочы, як Бог іх выратаваў.

Мірыям, сястра Майсея, ударыла ў бубен. Яна і іншыя жанчыны пачалі танцаваць і пяяць песьню перамогі: Хвалеце Госпада, хвалеце Яго, бо Ён уславіўся ў магутнасьці Сваёй. Каня і калясьніцу Ён патапіў у моры. (Выхад 14–15)

### 17. Бог апякуецца сваім народам

Майсей павёў народ ізраільскі ад Чырвонага мора праз пустыню. Тры дні шукалі яны ваду. Нарэшце знайшлі крыніцу. Але вада ў ёй была горкая. Яе нельга было піць. Ізраільцяне збунтаваліся супроць Майсея: Праз цябе памрэм ад смагі ў пустыні. Майсей памаліўся Богу, кажучы: Памажы нам! Бог паказаў Майсею кавалак дрэва. Калі Майсей паклаў гэтае дрэва ў ваду, яна страціла свой горкі смак. Людзі маглі наталіць сваю смагу.

Хутка пасьля гэтага прыйшлі яны зноў да Майсея: Чаму ты вывеў нас у пустыню? Лепш было нам заставацца ў Ягіпце! Там мы мелі ўдосталь мяса і хлеба. Але Бог сказаў Майсею: Я дам вам хлеб і мяса, каб вы навучыліся верыць Мне. І сапраўды: пад вечар прыляцела вялікая чарада птушак. Ізраільцяне лавілі іх бяз цяжкасьці. А раніцай зямля была пакрытая белай салодкай маннай. Кожны мог набраць яе, колькі трэба. Усе наеліся ўдосталь. І ня толькі ў той дзень, але і ў наступныя дні. Усе сорак гадоў, пакуль Ізраіль ішоў праз пустыню, Бог даваў яму хлеб і мяса.

Ад таго часу бацькі расказваюць сваім дзецям, як Бог клапаціўся аб Сваім народзе і апекаваўся ім. Гэта навука для ўсіх, што трэба верыць Яму і ў Ягоны провід. (Выхад 15:22–16:36)

## 18. Бог выбірае Сабе народ

Народ ізраільскі ішоў праз пустыню, ад аднаго месца адпачынку да другога. На трэці месяц яны сталі станам ля гары Сынайскай. Майсей узышоў на гару да Бога. Бог даў яму такое заданьне: Скажы ізраільцянам: Я вывеў вас з няволі ягіпецкай, як арол выводзіць сваіх арлянят. Калі будзеце слухацца Маіх слоў і захаваеце Мой саюз, тады будзеце Мне бліжэйшымі за ўсе іншыя народы. Уся зямля належыць Мне. Вы будзеце належаць Мне, як сьвятары, гатовыя заўсёды служыць Мне. Будзеце выбраным, сьвятым народам.

Калі Майсей зышоў з гары і расказаў людзям, што Бог яму загадаў, усе закрычалі: Мы гатовыя! Будзем рабіць усё, што загадае Бог. Хочам жыць так, як Ён хоча.

На Сынаі Бог даў свайму народу прыказаньні. Яны абавязковыя для ўсіх людзей на ўсе часы. Бог захоўвае вернасьць усім тым, што застаюцца вернымі Яму і Ягоным прыказаньням.

Бог сказаў: Я Госпад Бог твой, які вывеў цябе з Ягіпту, краіны няволі.

1. Ня мей іншых багоў апроч Мяне. Не рабі ніякага выяву падабенства Божага. Не служы нікому апрача Мяне.
2. Не злоўжывай імем Маім.
3. Захоўвай сьвятым сёмы дзень. У гэты дзень нельга працаваць.
4. Шануй твайго бацьку і маці.
5. Не забівай.
6. Не цужалож.
7. Не крадзі.
8. Не кажы няпраўды на твайго бліжняга.
9. Не пажадай чужой жонкі.
10. Не пажадай нічога, што не тваё.



Мойсей напісаў прыказаньні, якія Бог даў яму, на дзьвюх каменных табліцах. Ён паклаў табліцы ў сьвятую скрыню. Яны былі доказам саюзу, які заключыў Бог са Сваім народам. (Выхад 19–20)

## 19. Правілы жыцьця

Слухай, Ізраіль: Госпад – Бог твой і няма ніякага іншага бога апроч Яго. Ты павінен любіць Яго ўсім сэрцам тваім, усёй душою тваёю, усёй сілаю тваёю. (Другі Закон 6:4–5)

Калі стаіш аблогаю вакол нейкага гораду, ня нішчы ягоных пладавітых дрэваў. Можаш есьці іхнія плады, але сьсякаць іх ня маеш права. (Другі Закон 20:19)

Ня крыўдзі безабароннай удавы і сіраты. Калі будзеш прыгнятаць яе і яна пакліча Мяне, Я стану ў ейнай абароне. (Выхад 22:21)

Калі ўбачыш нейчага вала ці авечку, што заблудзілі, ня стой бязьдзейны. Завядзі жывёлу да ўласьніка і аддай яму. (Другі Закон 22:1)

Не прыцясьняй беднага найміта і не затрымлівай ягонай заплаты. Аддай належнае яму ў той самы дзень. (Другі Закон 24:14–15)

Калі ты абтрос аліўнае дрэва ці сабраў вінаград з кустоў, пакінь тое, што засталося на дрэве ці на кусьце, для бедных. (Другі Закон 24:20–22)

Не прыгнятайце чужынцаў, якія жывуць сярод вас. Хай яны маюць тыя самыя правы, што вы. Не забывайцеся, што вы былі чужынцамі ў зямлі Ягіпецкай. Я, Госпад Бог, кажу вам гэта. (Сьвят 19:33–34)

Не гавары дрэннага аб глухім, які ня чуе і ня можа бараніцца. Ня стаў перашкод на дарозе сьляпому, каб ён не спатыкнуўся. (Сьвятарская кніга 19:14)

Хай ня будзе нянавісьці на брата твайго ў сэрцы тваім. Навучай бліжняга твайго, каб табе ня быць



адказным за яго. Не шукай помсты і не хавай крыўды на нікога. Любі бліжняга твайго, як самога сябе. (Сьвят 19:17–18)

### 20. Сьмерць Майсея

Бог вызваліў свой народ з ягіпецкай няволі. Сорак гадоў правялі ізраільцяне ў пустыні, вучачыся верыць Богу і спадзявацца на Яго. Яны таксама навучыліся, як жыць згодна адзін з адным.

Людзі, якія выйшлі разам з Майсеем з Ягіпту, паўміралі ў пустыні. Майсей таксама састарыўся. Аднаго дня ён паблаславіў увесь народ і сказаў: Які шчасьлівы ты, Ізраіль! Няма іншага народу роўнага табе, бо Бог твой абаронца. Тады ўзышоў ён на вершаліну гары Наблюс. Там Госпад паказаў яму ўсю Ханаанскую зямлю, якую Ён абяцаў Свайму народу. Майсей памёр на мяжы гэтай зямлі, бо Госпад сказаў яму: Пакажу табе зямлю, але ты ў яе ня ўвойдзеш. Ізраільцяне спраўлялі жалобу па Майсею трыццаць дзён. (Другі Закон 33–34)

## КАРАЛІ І ПРАРОКІ

### 21. На абяцанай зямлі

Перад сьмерцю Майсей назначыў Ісуса Навіна сваім наступнікам. Ён павінен быў завесьці ізраільцянаў у зямлю Ханаанскую, дзе раней жылі Абрагам, Ісаак і Якуб. Народы, што жылі ў Ханаане, не хацелі пусьціць ізраільцянаў. Але ізраільцяне пад кіраўніцтвам Ісуса, верачы Божаму абяцаньню, не адступалі. З часам яны заваявалі ўсю краіну. Яны збудавалі сабе вёскі і, як ханааніты, пачалі займацца земляробствам.

Ізраільцяне навучыліся шмат чаго ад ханаанітаў: як пазнаць, калі збожжа пасьпела і калі прыйшоў час віназбору; як найлепш рабіць розныя прылады; як варыць стравы і рабіць вопратку. Калі аднак яны хацелі застацца вернымі саюзу з Богам, яны не павінны былі пакланяцца і служыць багом ханаанскім. Але для ізраільцянаў цяжка было захаваць гэты Божы запавет. Ханааніты мелі ўсюды – на ўзгорках і пад высокімі дрэвамі – свае ахвярнікі, дзе яны пакланяліся іхнім багом, просячы аб дажджы і добрым ураджаі.

Ізраільцяне ў той час мелі нагоду пераканацца, што пакуль яны заставаліся верныя Богу Абрагама, Ісаака і Якуба, Ён іх ахоўваў і бласлаўляў. Калі ж яны забывалі аб Ім, дык адразу траплялі ў бяду і няшчасьці. Але як толькі яны вярталіся зноў да Яго, вызнаючы сваю віну і просячы прабачэньня, Ён таксама павяртаўся да іх і бласлаўляў іх. (Ісус, Судзьдзі)

## 22. Народ хоча караля

Ізраільцяне падзялілі краіну так, што кожнае з дванаццаці пакаленьняў мела сваю акругу. Старэйшыя пакаленьняў падзялілі зямлю паміж сем'ямі. Кожная сям'я атрымала дастаткова зямлі для сваіх патрэбаў.

Кожнае пакаленьне жыло сваім жыцьцём. Але ў час небясьпекі яны зьбіраліся разам, каб супольнымі сіламі бараніцца ад ворага. Бог пасылаў ім правадыра–вызваліцеля для абароны.

Аднак ізраільцянам было не да спадобы спадзявацца толькі на Бога і кожны раз у патрэбе чакаць, пакуль Ён пашле ім вызваліцеля. Яны хацелі мець караля, які быў бы заўсёды з імі. Самуэль быў судзьдзёй, пасланым Богам. Ён спытаўся ў людзей: Ці сапраўды хочаце мець над сабою чалавека, працаваць на яго і плаціць яму падаткі?

Прадстаўнікі пакаленьняў адказалі: Хочам быць, як іншыя народы. Кароль скажа нам, што трэба, а чаго нельга рабіць. Ён будзе нашым правадыром падчас вайны.

Бог сказаў Самуэлю: Слухай, што людзі кажуць. Яны не цябе адкінулі, а Мяне. На загад Божы Самуэль памазаў Саўла на караля Ізраільскага. Саўл мог быць добрым каралём, калі б ён заставаўся верны Богу. Але Саўл не жадаў спадзявацца на нікога, нават на Бога. Ён нікому не давяраў. З часам ён зусім заблытаўся і стаўся пануры. Бог ня быў больш з Саўлам. Дзеля гэтага ён ня мог больш кіраваць народам і бараніць яго. (1 Сам 8–15)

**23. Давід, пастух з Бэтлеему**

Давід з Бэтлеему быў другім і найвялікшым каралём Ізраіля. Ён спадзяваўся на Бога, і Бог быў з ім. Дзеля гэтага народ Божы не забывае імя Давіда. У Ізраілі існуе шмат апавяданьняў пра яго.



Давід быў наймалодшым сынам Ясея. Ён пасьвіў авечак, калі прыйшоў Самуэль, каб памазаць яго на караля. Давід быў добрым пастухом. Ён ведаў і любіў сваіх авечак і не ўцякаў, калі прыходзіў драпежны зьвер. Давід быў сьмелы. Ён не баяўся ворагаў Бога і свайго народу. Расказваюць, што, будучы юнаком, ён прыйшоў аднойчы ў ваенны стан ізраільцянаў. Там ён даведаўся, што волат з варожага стану на імя Галіят насьміхаўся з ізраільцянаў і з іхняга Бога. Ніводзін ізраільцянін не асьмельваўся выйсьці на змаганьне з Галіятам. Але Давід сказаў яму: Пабачым, які магутны Бог Ізраіля. Ён паклаў камень у прашчу, раскруціў яе над галавой і шпурнуў з усёй сілы камень, які трапіў Галіяту проста ў лоб між вачэй. Ворагаў апанаваў страх: ім адхацелася ваяваць з Ізраілем, і яны ўцяклі.

Давід умеў прыгожа сьпяваць і граць на гусьлях. У кнізе псальмаў, што была сьпеўнікам народу Божага, запісаныя сто пяцьдзесят песьняў, якія сьпяваў Давід. Нейкі час Давід жыў у палацы Саўла. Калі Саўла апаноўваў сум, Давід браў гусьлі і граў, і Саўл зноў весялеў. Паколькі Бог быў з Давідам, ён перамагаў ворагаў. Саўл назначыў яго начальнікам свайго войска. Але калі Давід вяртаўся з перамогаю і народ яго радасна вітаў, Саўл поўніўся зайздрасьцю і хацеў пазбыцца яго. Шмат гадоў Давіду і ягоным сябрам прыходзілася хавацца ад Саўла.

Калі філістыны зноў напалі на Ізраіля, Саўл ня мог з імі справіцца. У гарах Гільбоа згінулі тры сыны Саўла, а ён сам быў цяжка паранены. Ён памёр, кінуўшыся на свой меч. (1 Сам 16–31)

## 24. Давід – кароль у Ерусаліме

Пасьля сьмерці Саўла Давід стаў каралём над усім Ізраілем. Ён здабыў Ерусалім і зрабіў яго сваёй сталіцаю. Ён загадаў перанесьці ў Ерусалім сьвятую

скрыню з табліцамі, на якіх былі напісаныя прыказаньні. Ён хацеў, каб Ерусалім быў сьвятым горадам.

Давід спадзяваўся на Бога. Ён хацеў захаваць саюз з Ім. Калі аднойчы ён учыніў дрэнную рэч, ён хутка спазнаў свой грэх і папрасіў у Бога прабачэньня. Аднойчы Давід паклікаў Натана. Натан быў прарокам, чалавекам, якога Бог выбраў быць Сваім прадстаўніком. Давід сказаў Натану: жыву ў пышным хораме, але сьвятая скрыня ўсё яшчэ стаіць у палатцы. Хачу збудаваць дом для Бога.

Назаўтра Натан прыйшоў зноў да Давіда і сказаў: Бог ня хоча, каб ты збудаваў Яму дом. Наадварот, Ён збудуе табе дом, дом жывы. Калі памрэш, сын твой будзе ўладаром народу Божага. Гэтыя словы маюць моц на ўсе часы. Таму народ Божы верыць, што вялікі Вызваліцель, Мэсыя, якога Бог абяцаў людзям, прыйдзе з роду Давіда. (2 Сам 7)

## 25. Песьня Давіда

Госпад мой пастыр,
і ні ў чым ня буду мець нястачы;
На зялёнай пашы Ён дазваляе ляжаць мне,
прыводзіць мяне на ціхія воды,
Вядзе мяне па простых сьцежках.
Калі б нават я хадзіў
цёмнай далінаю,
не збаюся зла,
бо Ты са мною. (Пс 23)

## 26. Салямон будуе дом Богу

Кароль Давід памёр і быў пахаваны ў Ерусаліме. Ягоны сын Салямон панаваў у Ізраілі.

Салямон быў разумным каралём. Ён ведаў розьніцу між справядлівасьцю і несправядлівасьцю. У Ерусаліме ён збудаваў сабе палац, а таксама дом Божы, Сьвятыню. Ён загадаў перанесьці туды сьвятую



скрыню Запавету. У дзень пасьвячаньня сьвятыні. Салямон маліўся: Госпадзе, Божа мой! Ты абяцаў, што будзеш блізка нас у гэтай сьвятыні. Пачуй малітву маю. Пачуй усіх, што ў гэтай сьвятыні клічуць Цябе. Выслухай нас і прабач нам нашыя правіны.

Салямон не хацеў весьці войны, як ягоны бацька Давід. Ён заключыў умовы з суседнімі народамі. Ён займаўся гандлем, і ягоныя караблі плавалі далёка па моры. Ён запрасіў да сябе работнікаў з іншых краінаў і меў чужынак за жонак. Чужынцы, якіх Салямон запрасіў, хацелі пакланяцца сваім багом. Салямон дазволіў ім збудаваць у Ізраілі свае ахвярнікі і нават сам маліўся чужым багом і пакланяўся ім. Такім чынам ён здрадзіў адзінаму сапраўднаму Богу. Ён парушыў Саюз. (1 Карал 5–11)

**27. Прыповесьці Салямона**

Разумнае дзіця цешыць бацькоў сваіх; дурное прыносіць сум. (10:1)

Нянавісьць вядзе да бойкі; любоў родзіць згоду. (10:12)

Атрымае дапамогу той, хто памагае іншым; хто дае піць сасмагламу, ня будзе цярпець смагі. (11:25)

Шануе Бога той, хто ходзіць простай дарогаю; зьневажае Яго, хто ходзіць крывымі сьцежкамі. (14:2)

Грэшыць, хто пагарджае бліжнім; шчасьлівы той, хто спагадае беднаму. (14:21)

Хто ня чуе крыку бедных, ня будзе пачуты, калі будзе клікаць у патрэбе. (21:13)

**28. Два каралі ў адным народзе**

Пасьля сьмерці Салямона ягоны сын Рабаам хацеў быць каралём у Ерусаліме. Дасьведчаныя людзі далі яму раду: Твой бацька Салямон вымагаў вялікія пастаўкі ад сялян і высокія падаткі ад купцоў. Калі зьменшыш падаткі, увесь Ізраіль прызнае цябе каралём.

Аднак Рабаам не паслухаўся рады дасьведчаных людзей. Дзеля гэтага дзесяць пакаленьняў, што жылі на поўначы, сказалі: Ня хочам караля з дому Давіда. Выберам свайго караля. Толькі пакаленьне, што выводзілася ад Юды, сына Якубавага, і жыло ў ваколіцы Ерусаліму, засталося вернае Рабааму. Ад таго часу быў адзін кароль у Ерусаліме, а другі ў Сыхеме ў Самарыі. (I Карал 12)

**29. Жывы Бог**

Рабаам, першы кароль паўночных пакаленьняў, сказаў у сабе: Нядобра, каб жыхары маёй дзяржавы хадзілі ў Сьвятыню ў Ерусалім на сьвяты або калі хочуць прынесьці ахвяру. Ён загадаў адліць з золата дзьве статуі цялят. Адну статую ён паставіў у горадзе Дан на поўначы свайго каралеўства, а другую на поўдні, у горадзе Бэтэль. Тады сказаў ён

сваім людзям: Ня маеце больш патрэбы хадзіць у Ерусалім на сьвяты або калі хочаце прынесьці ахвяру. Вы знойдзеце Бога ў Дане і Бэтэлі – таго самага Бога, які вывеў айцоў вашых з Ягіпту.

Ня ўсе ізраільцяне паслухаліся Рабаама, бо яны ўспомнілі, што Бог забараніў людзям Сваім рабіць выявы Бога, як гэта рабілі егіпцяне. Яны ведалі, што парушаць саюз з Богам, калі памяняюць жывога Бога на мёртвы вобраз. (1 Карал 12; Выхад 32–34)

## 30. Магутны Бог

Каралі Ізраіля часта забывалі Бога і саюз з Ім. Але Бог захоўваў саюз. Ён пасылаў да каралёў і людзей мужоў, якія гаварылі ад Ягонага імя. Яны называліся прарокамі.

Кароль Ахаб быў адным з тых, што пакланяліся ідалу Баалю. Гальяш быў прарокам Божым. Ён пайшоў да караля Ахаба і сказаў: Я слуга Бога Ізраіля. Ён – Бог магутны. Убачыш сілу Яго, ты і ўся краіна, бо ад сёньняшняга дня ні раса ні дождж ня сыдуць з неба. Сухмень будзе трываць так доўга, як я загадаю.

Сказаўшы гэта, Гальяш спалохаўся гневу караля. Ён уцёк у Фінікію. Там ён пасяліўся ў хаце адной беднай жанчыны. Яна была ўдава і мела адзінага сына. Сын ейны захварэў і памёр. Жанчына паскардзілася Гальяшу: Ты – чалавек Божы. Таму, што ты жывеш у маёй хаце, Бог глядзіць на мяне, бачыць мае грахі і карае мяне. Гальяш падняў мёртвае дзіця і паклаў яго на свой ложак. Тады ён нахіліўся над хлопчыкам і памаліўся: Госпадзе Божа мой, вярні жыцьцё гэтаму дзіцяці. Бог пачуў малітву прарока, і дзіця ажыло. Гальяш узяў хлапца за руку і прывёў да маці. (1 Карал 17)



## 31. Адзіны праўдзівы Бог

Пасьля двух гадоў Бог паслаў Гальяша да Ахаба. Ахаб пачаў наракаць на прарока: Гэта твая віна, што народ Ізраільскі церпіць голад! Але Гальяш адказаў яму: Не я вінаваты за сухмень, але ты і твая сям'я. Ты пакінуў Бога і пачаў пакланяцца Баалю. Пакліч цяпер увесь народ на гару Кармэль. Там будзе відно, чый Бог праўдзівы. Кароль Ахаб паклікаў усіх. Прыйшлі на гару Кармэль усе прарокі і сьвятары, а з імі многа ізраільцянаў.

Гальяш сказаў: Збудуйце ахвярнік і пакладзеце на яго вашу ахвяру. Тады малецеся да вашага бога: хай ён пашле агонь з неба на яе. Сьвятары і прарокі Бааля збудавалі ахвярнік і паклалі на яго ахвяру. Ад раніцы да поўдня яны маліліся. Ад поўдня да вечара галасілі: Бааль, пачуй нас! Але яны клікалі дарэмна. Нічога ня здарылася.

Вечарам Гальяш збудаваў ахвярнік Богу Ізраіля. Ён паклаў сваю ахвяру на ахвярнік, паліў яе вадою.

Тады памаліўся: Госпадзе Божа Абрагама, Божа Ісаака, Божа Якуба, пакажы ўсім, што Ты – Бог Ізраіля і што я Твой слуга. Пачуй мяне, Госпадзе, пачуй мяне! І вось агонь зышоў з неба і спаліў ахвяру. Усе, хто бачыў гэта, здумеліся. Яны ўсклікнулі: Госпад – Бог! Госпад – Бог! Хутка пасьля гэтага неба пакрылася хмарамі і пайшоў дождж на высахлую зямлю. (1 Карал 18)

### 32. Бог кліча Гальяша да Сябе

Гальяш адчуваў, што Бог хоча паклікаць яго да Сябе. Ён пайшоў у краіну, што была за Ярданам. Ён хацеў быць адзін, але Елісей, ягоны вучань, не хацеў пакінуць яго і пайшоў разам з ім. Елісей бачыў, як агонь і моцны вецер сышоў з неба, акружыў Гальяша і ўзьняў яго на неба, быццам на калясьніцы.

Калі Елісей вярнуўся адзін на другі бок Ярдану, ён сустрэў там пяцьдзесят вучняў прароцкіх. Яны спыталіся: Дзе Гальяш? Пакажы яго нам! Елісей адказаў: Яго больш няма з намі, не шукайце яго. Тры дні яны шукалі Гальяша, але не знайшлі. Вярнуўшыся, яны сказалі: Бог узяў прарока на вогненнай калясьніцы. З таго часу народ ізраільскі верыць, што калі надыдзе поўня часу, Бог пашле зноў пасланца Свайго Гальяша на зямлю. (2 Карал 2)

### 33. Елісей корміць галодных

Нейкі чалавек прынёс прароку Елісею дваццаць ячменных хлябоў і мех пшаніцы. Елісей загадаў свайму слузе: Раздай гэта ўсё людзям, хай ядуць. Слуга засумняваўся: Ці хопіць гэтага на сотню людзей? Але Елісей паўтарыў загад: Дай людзям, каб елі. Убачыш, што яшчэ застанецца. Слуга раздаў хлябы. Усе наеліся, і яшчэ засталося. Ста-

лася так, як сказаў Госпад праз прарока Елісея. (2 Карал 4,42 і дал.)

### 34. Божы дар для людзей

Калі Ахаз быў каралём у Ерусаліме, два каралі пайшлі вайной на яго. Войскі іх акружылі Ерусалім. Сэрцы ў караля і людзей дрыжалі, быццам лісьце на дрэвах у лесе падчас буры.

Ахаз пайшоў праверыць вадаправод. Прарок Ісая пайшоў з ім і прынёс яму вестку ад Бога: Будзь спакойны, ня бойся нічога. Два каралі задумалі здраду супроць цябе. Але ты заставайся верны Богу, і Ён будзе верны табе. Прасі знаку ў Бога, і Ён дасьць табе яго, каб ты ведаў, што Бог твой памочнік. Але Ахаз не хацеў слухаць. Тады Ісая сказаў: Тым ня менш Бог дасьць табе знак: Вось дзева зачне дзіця. Яна народзіць сына і дасьць яму імя Эмануэль, што значыць „З намі Бог''(Ісая 7)

### 35. Прарок Амос абвінавачвае

Госпад сказаў: За тры ці чатыры злачынствы Юды не адхілю майго пакараньня. Яны пагардзілі Маім словам і не паслухаліся Маіх загадаў. Яны дазволілі, каб ілжывыя багі зьвялі іх у блуд, як і іхніх продкаў. Дзеля гэтага пашлю агонь на Юду і спалю харамы Ерусаліму.

Госпад сказаў: За тры ці чатыры злачынствы Ізраіля не ўстрымаю Майго пакараньня. Яны прадалі за грошы нявіннага чалавека. Яны патапталі ў пыл малых і ашуканствам пазбавілі слабых іхніх правоў.

Дзеля гэтага Я ўчыню, каб зямля затрэслася пад вамі, як трасецца воз пад цяжарам снапоў. Нават самыя хуткія сярод вас ня змогуць уцячы, сіла пакіне асілкаў і сьмелым ня стане адвагі. (Амос 2)

## 36. Ярэма папярэджвае аб кары Божай

Ня шмат было людзей, якія захоўвалі саюз з Богам. Іхняе войска не магло раўняцца з войскамі магутных суседніх народаў. Яны былі бясьсільныя перад асырыйцамі, якія занялі іхнюю зямлю і забралі многіх людзей у палон у далёкую краіну. Тыя, што засталіся верныя, бачылі ў гэтым няшчасьці кару Божую, як было прадказана раней праз прарокаў.

У Ерусаліме Ярэма папярэджваў народ, кажучы: Дваццаць тры гады я быў прарокам Божым. Я перадаваў вам усё, што казаў Ён, але вы ня слухалі. Я казаў: Адвярнецеся ад вашых грэшных сьцежак. Перастаньце рабіць благое. Тады застанецеся ў краіне, якую Бог даў бацьком вашым і вам назаўсёды. Але вы ня слухалі мяне. Таму Госпад сказаў: Я дам дазвол народам, што жывуць на поўначы, напасьці на вас. Я ўчыню Набухаданозара, караля бабілёнскага, прыладаю гневу Майго. Я зраблю, што ён нападзе на вас і на вашых суседзяў. Ён спустошыць вашу краіну. Вы будзеце служыць каралю бабілёнскаму.

Так і здарылася: Набухаданозар з войскам сваім учыніў аблогу Ерусаліму. Хутка ня стала хлеба ў горадзе. Пачаўся вялікі голад. Тады бабілёнцы праламалі дзіру ў муры, уварваліся ў горад, спалілі Сьвятыню, каралеўскі палац і дамы багатых. Муры Ерусаліму былі разбураныя. Пераможцы забралі сьвяты посуд з сьвятыні як здабычу, а ўсіх знатных людзей і рамесьнікаў пагналі ў Бабілён на выгнаньне. Толькі бедныя, сяляне і вінаградары засталіся на бацькаўшчыне. (Ярэма 25:52)

## 37. Бог хоча прабачыць Свайму народу

Бог сказаў Свайму народу праз прарока Еза-

кіеля: Таму, што вы не былі верныя Мне і парушылі Мае запаветы, цяпер вы жывеце далёка ад бацькаўшчыны на выгнаньні. Бабілёнцы гавораць між сабою: Калі яны сапраўды народ Божы, дык чаму яны страцілі сваю бацькаўшчыну? Гэтак яны насьміхаюцца з вас і з Мяне. Але яны ўбачаць, што Я – Госпад. Я зьбяру вас усіх і завяду зноў на вашу бацькаўшчыну. Я ўчыню вас новым народам, які будзе служыць Мне верна. Я вазьму каменныя сэрцы з вашых целаў і дам вам узамен сэрцы людзкія. Я сышлю Духа Майго на вас, каб вы шанавалі і захоўвалі Мае прыказаньні. Будзеце жыць у краіне бацькоў вашых. Будзеце Маім народам, і Я буду вашым Богам. (Езак 36:20–28)

### 38. Вяртаньне з Бабілёну

Выгнанцы з Юдэі і Ерусаліму прабылі каля сарака гадоў у Бабілёне. Нарэшце Кір, кароль



пэрсідзкі, заняў Бабілён. Ён аб'явіў ва ўсіх сваіх уладаньнях: Госпад Бог з неба даў мне ўладу над усімі каралеўствамі на зямлі. Ён загадаў мне адбудаваць Ягоны Дом у Ерусаліме. Дзеля гэтага ўсе, што належаць да народу Божага, хай вяртаюцца ў Ерусалім. Хай яны там адбудуюць Сьвятыню.

Такім чынам, ведзеныя Духам Божым, яны вырушылі ў дарогу. Суседзі абдарылі іх золатам і серабром, жывёлай і іншымі падарункамі. Кароль Кір загадаў аддаць ім сьвяты посуд, які Набухаданозар забраў са Сьвятыні і завёз у Бабілён. (Эзра 1)

### 39. Песьня вяртаньня

Калі Бог вяртаў палонных у Сыён, мы былі быццам у сьне. Вусны нашы былі поўныя сьмеху, а язык радасьці.

Тады іншыя народы казалі: Як цудоўна паступіў Госпад з імі!

Госпад учыніў нам вялікія рэчы, і мы напоўніліся радасьцю. (Пс 126)

## ЧАКАНЬНЕ МЭСЫІ

### 40. Гэбрайскі народ

Тыя, што вярнуліся з Бабілёнскага выгнаньня, пабудавалі себе дамы на зямлі пакаленьня Юды вакол Ерусаліму. Яны сталіся ядром гэбрайскага народу. Ім хацелася аднавіць спосаб жыцьця іхніх бацькоў, але старога нельга было вярнуць. У Ерусаліме і ваколіцы жылі бабілёнскія асаднікі. Яны захоўвалі свае звычаі і пакланяліся сваім багом.

Муры, якія раней ахоўвалі Ерусалім, былі зруйнаваныя. Ад Сьвятыні Салямона засталася толькі груда каменьня. Гэбраі адбудавалі свае дамы і муры

вакол Ерусаліму. У другім годзе пасьля вяртаньня яны залажылі падваліны для новай Сьвятыні.

Гэбраі жылі зноў у сваёй краіне, якая цяпер была часткаю ўладаньняў чужых уладароў. Гэтыя ўладары пасылалі ў Ерусалім сваіх жаўнераў, мытнікаў і ваяводаў. Часта чужынцы рабілі спробы адвярнуць гэбраяў ад веры Абрагама. Некаторыя ўладары намагаліся змусіць усіх падданых жыць і верыць, як яны, і пакланяцца іхнім багом.

Праз доўгія стагодзьдзі чужога панаваньня сьвятары ў Ерусаліме сабралі ў адно ўсе сьвятыя пісаньні і паданьні. Усе пабожныя людзі стараліся жыць, захоўваючы ўсе законы і прыказаньні. Яны паглыблялі сваё разуменьне Бога і Ягонага Саюзу. Яны жылі ў чаканьні прыйсьця Караля, Адкупіцеля, якога Бог абяцаў Сваім людзям. Часта прыходзілася ім цярпець перасьлед і мукі. Але нават асуджаныя на сьмерць яны непахісна трывалі пры веры ў Бога жывога, здольнага сьмерцю вызваліць Свой народ ад сьмерці. (Эзра, Нэгамія, Макабэі)

## 41. Гіёб жадае адказу ад Бога

Гіёб быў пабожным чалавекам. Ён спадзяваўся на Бога і ненавідзеў зло. Гіёб быў багаты. Ён меў сем сыноў, тры дачкі, шмат авечак і вярблюдаў, валоў і аслоў. Гіёбу не было цяжка быць верным Богу, які даў яму ўсе гэтыя багацьці.

Але Бог аддаў Гіёба на выпрабаваньне. Банды разбойнікаў напалі на ягоныя статкі. Яны пазабівалі пастухоў і ўкралі жывёлу. Аднак Гіёб не ўсумніўся. Ён спадзяваўся на Бога. Хутка пасьля гэтага другое няшчасьце напаткала яго. Калі ягоныя сыны і дочкі сядзелі за сталом на бяседзе, узьняўся вялікі вецер і разбурыў дом, дзе яны былі. Сыны і дочкі Гіёба ўсе загінулі пад руінамі дому.

Калі Гіёб пачуў аб гэтым няшчасьці, ён сказаў: Я прыйшоў голы на сьвет, голы і памру. Госпад дае і Госпад забірае: Хай будзе Ён благаслаўлёны.

Але яшчэ горшыя выпрабаваньні чакалі Гіёба. Ён стаўся пракажоны, усё ягонае цела пакрылася гнойнымі ранамі. Гіёб, хоць быў багаты, сеў на кучы попелу. Ён саскробваў з цела гной асколкам з пабітага глінянага гаршка. Жонка Гіёба прыйшла да яго, кажучы: Глянь, да чаго давяла цябе вера ў Бога! Пракляні Бога і памры. Але Гіёб адказаў: Ты гаворыш, як неразумныя, што ня ведаюць Бога. Калі мы прымаем добрыя рэчы, якія Ён пасылае нам, ці ж ня трэба нам прыняць таксама і благія рэчы з рук Ягоных?

Гіёб меў трох прыяцеляў. Калі яны пачулі пра няшчасьце, якое яго напаткала, яны прыйшлі наведаць і пацешыць яго. Убачыўшы веліч няшчасьця і гора, яны заплакалі, пасьля селі побач з ім і прасядзелі так моўчкі сем дзён і сем начэй, ня кажучы нічога, бо бачылі як моцна церпіць Гіёб. Тады Гіёб пачаў размаўляць з Богам і спрачацца з Ім. Ён жаліўся, што Бог паслаў яму, бязьвіннаму, такія няшчасьці.

Прыяцелі Гіёба жахнуліся. Яны пачалі бараніць Бога, кажучы: Як ты сьмееш абвінавачваць Бога? Усе ведаюць, што Бог справядлівы. Ён узнагароджвае добрых і карае благіх. Ён не паслаў бы на цябе гэтыя няшчасьці, калі б ты не заслужыў іх. Але Гіёб быў моцна ўпэўнены ў сваёй справядлівасьці. Ён дамагаўся, каб Бог даў яму адказ, чым ён, будучы справядлівым, заслужыў такія цярпеньні.

Прыяцелі гаварылі доўга і разумна, стараючыся пераканаць Гіёба, што ён ня мае слушнасьці, бо Бог ня можа быць несправядлівы. Але Гіёб стаяў пры сваім. Ён хацеў зразумець, чаму Бог так моцна карае Свайго вернага слугу. Тады Бог адказаў у ветры Гіёбу. Ён спытаўся: Хто ты, каб судзіцца са Мною?



Чаму гаворыш аб рэчах, якіх ня можаш зразумець? Дзе быў ты, калі Я ўстанаўляў асновы зямлі? Ці ты аддзяліў мора ад сушы? Ці ты гэта ўстанавіў дню і ночы адпаведныя часы? Ці ты загадаў зоркам узысьці на небе? Ці даеш страву ўсім жывым істотам на зямлі? Гіёб чуў усе пытаньні, але ня меў на іх адказу. Ён зразумеў, што веліч Божая пераўзыходзіць усякае разуменьне. Бог такі вялікі, што Яму неабходна верыць, нават калі Ягоныя пляны застаюцца для нас незразумелыя.

Гіёб адказаў Госпаду: Цяпер ведаю, што Ты ўсё можаш. Няма немагчымых рэчаў для Цябе. У маім няведаньні я хацеў, каб Ты апраўдаўся перада мною. Твае намеры цудоўныя, хоць я не магу зразумець іх. Дагэтуль я ведаў Цябе толькі з таго, што чуў. Цяпер я ўбачыў Цябе на ўласныя вочы. Таму бяру назад усё, што сказаў раней і ўскладаю на Цябе ўсю маю надзею. (Гіёб)

## 42. Ёна пазнае Бога

Бог прамовіў да прарока Ёны: Зьбірайся ў дарогу, ідзі ў сталіцу асырыйскага каралеўства Ніневу і скажы жыхаром аб пакараньні, якое Я зышлю на іх. Але Ёна не хацеў ісьці ў Ніневу. Ён уцёк і сеў на карабель, які меў ехаць у далёкую краіну. Ён хацеў уцячы ад Бога.

Але Госпад учыніў вялікую буру на моры. Карабель затросься. Усе спалохаліся і пачалі маліцца, кожны да свайго бога. А Ёна спаў сабе ўнізе. Капітан карабля разбудзіў Ёну, кажучы: Як ты можаш спаць у такі час? Уставай і маліся твайму Богу! Можа, Ён выбавіць нас. Матросы сказалі: Давайце кінем жэрабя, каб даведацца, хто вінаваты ў гэтай бядзе. Жэрабя пала на Ёну. Ёна сказаў: Калі хочаце выратавацца, кіньце мяне ў мора. Гэтая бура – мая віна. Матросы грэблі з усёй сілы, але нічога не маглі зрабіць. Тады яны памаліліся: Госпадзе, не залічы нам за віну тое, што маем зрабіць з гэтым нявінным чалавекам. Пасьля яны ўзялі Ёну і кінулі яго ў мора, якое адразу супакоілася.

Госпад паслаў вялікую рыбу, якая праглынула Ёну. Тры дні прабыў Ёна ў нутры рыбы. Там ён памаліўся Госпаду Богу свайму. Рыба падплыла да берагу і выкінула Ёну. Бог зноў загадаў Ёну: Ідзі ў Ніневу, вялікі горад. Абвясьці там усё, што Я табе сказаў. Ёна пайшоў у Ніневу і пачаў прапаведаваць: Яшчэ сорак дзён, і Нінева будзе зьнішчаная дашчэнту.

Жыхары Ніневы паслухаліся Ёну. Яны паверылі Богу, надзелі вопратку з мяшкоў у знак пакаяньня і абʼявілі вялікі пост. Пасьцілі ўсе: вялікія і малыя, багатыя і бедныя. Бог убачыў, што жыхары Ніневы пакаяліся, і адмяніў сваю пагрозу кары. Але Ёна вельмі засмуціўся. Ён памаліўся: Я не хацеў ісьці ў Ніневу, бо ведаў, што Ты, Госпадзе, любіш людзей і прабачаеш ім. Цяпер мне лепш памерці, чым жыць у такім сораме.



Ёна выйшаў з Ніневы і, адышоўшыся крыху на ўсход ад яе, сеў і чакаў, што здарыцца. Бог загадаў дрэву вырасьці і пакрыць сваім ценем Ёну. Ёна вельмі ўсьцешыўся з дрэва. Але ўночы рабак падгрыз карані дрэва, і яно ссохла. Сонца паліла неміласэрна. Ёна ня мог сьцярпець гарачыні і ўсклікнуў: Хачу памерці. Але Бог сказаў яму: Ты засмуціўся з прычыны расьліны, што вырасла ў адну ноч і ў адну ноч засохла. Ці ж Мне ня трэба было пашкадаваць вялікага горада, у якім жыве шмат дзетак і жывёлы? (Ёна)

### 43. Валадарства Божае

Прарок Даніла апісвае відзеньне, якое Бог даў яму: Пасады былі пастаўленыя. Адзін Старавечны заняў сваё месца. Вопратка Ягоная была белая як сьнег, а валасы – як чыстая воўна; пасад Ягоны быў быццам вогненнае полымя, а колы як агонь. Рака вогненная, выходзячы адтуль, плыла перад Ім. Ты-

сячы тысяч служылі Яму. Безьліч тысяч стаялі перад Ім.

І вось на хмары нябеснай зыходзіў нехта быццам Сын Чалавечы. Ён падышоў да Старавечнага і быў пастаўлены перад Ягоным абліччам. Старавечны даў Яму сілу, славу і ўладу. Усе людзі, народы і плямёны служылі Яму. Панаваньне Яго – панаваньне вечнае, якому ня будзе канца. Валадарства Яго непарушнае. (Дан 7:9–14)

## 44. Песьня пра Слугу Божага

Прарок сьпявае песьню пра Слугу, які выконвае волю Божую ва ўсіх рэчах. Праз Яго Божая справядлівасьць і збаўленьне сыходзяць на зямлю.

Вось Мой Слуга, якому спагадаю. Ён Мой выбраны, Яго люблю. Дух Мой спачыў на Ім. Ён аб'явіць праўду людзям. Ён ня кліча, не крычыць, голасу Яго не чуваць на вуліцах. Ён ня зломіць трысьціны і ня згасіць ільну, што курыцца. Ён будзе чыніць суд у праўдзе. Не зьнеахвоціцца і не заломіцца пакуль не ўстановіць Закону на зямлі. Далёкія астравы чакаюць Ягоных павучэньняў. (Ісая 42:1–4)

## 45. Новы сьвет Божы

Госпад кажа: Вось Я ствару новае неба і новую зямлю. Што было раней, праміне бяз сьледу. Будзеце цешыцца і радавацца з таго, што Я ствару. Ня будзе больш ні сьлёз ні нараканьняў. Ня будзе больш немаўляці, жыцьцё якога лічыцца днямі, ані маладых мужчын і жанчын, якія б паміралі ў сіле веку. Усе будуць жыць так доўга, як дрэвы. Ніхто не адбярэ ад іх пладоў працы іх. Перш чым паклічуць Мяне, Я ім адкажу. Тады воўк і ягня будуць разам пасьвіцца; леў, як вол, будзе есьці траву. Ніхто ня будзе чыніць благое, ані рабіць крыўду. (Ісая 65:17–25)



# З КНІГ НОВАГА ЗАПАВЕТУ

## БОГ ВЫКОНВАЕ СВАЁ АБЯЦАНЬНЕ

**46. Сын Найвышэйшага**

Бог паслаў анёла Габрыеля, Свайго пасланца, у Назарэт да дзевы, якая называлася Марыя. Яна была заручаная з Язэпам, які паходзіў з сям'і караля Давіда. Габрыель прыйшоў да Марыі і сказаў:

Радуйся, Марыя! Госпад з табою. Ён выбраў цябе. Марыя спалохалася і дзівілася, што б маглі значыць гэтыя словы. Але Габрыель сказаў: Ня бойся,Марыя, бо ты знайшла ласку ў Бога. Бог любіць цябе. Ты народзіш сына і дасі яму імя „Ісус''. Ён будзе вялікі і будзе звацца Сынам Найвышэйшага.

Марыя спыталася: Як гэта можа стацца, бо я ж яшчэ незамужняя? Габрыель адказаў: Дух Сьвяты, сіла Найвышэйшага, зыдзе на цябе. Бо ў Бога няма нічога немагчымага. Тады Марыя сказала: Вось я служанка Госпада. Хай са мною станецца тое, што Бог хоча. (Лк 1:27–28)

### 47. Імя Яго Эмануэль, што значыць „З намі Бог“

Язэп быў пабожны і справядлівы. Ён заўважыў, што Марыя, з якою ён быў заручаны, чакае дзіцяці. Ён любіў яе і не хацеў яе крыўдзіць, і таму шукаў спосабу, як адпусьціць яе бяз розгаласу. У тую самую ноч ён убачыў у сьне пасланца Божага, анёла, які сказаў яму: Язэпе, сыне Давіда, ня бойся. Вазьмі Марыю за жонку. Дзіця, якое яна чакае – ад Духа Божага. Яна народзіць сына, і ты назавеш яго „Ісус''. Ён установіць згоду між людзьмі і Богам. Так будзе споўненае прароцтва Ісаі: Вось дзева зачне дзіця. Яна народзіць сына і дасьць яму імя Эмануэль, што значыць „З намі Бог''. (Мц 1)

### 48. Ён нарадзіўся ў Бэтлееме

У тым часе ў Рыме панаваў імпэратар Аўгуст. Ён даў загад: Усе людзі, якія жывуць у маім валадарстве, павінны запісацца, кожны на месцы, дзе нарадзіўся. Дык вось Язэп і Марыя выбраліся ў дарогу з Назарэту ў Бэтлеем, родны горад караля Давіда. Там Марыя нарадзіла сына свайго першарод-

нага. Яна спавіла Яго ў пялёнкі і паклала ў жолабе, бо ў заезьдзе не знайшлося месца для іх.

Недалёка Бэтлееему пастухі пасьвілі статак авечак. Пасланец Божы зьявіўся ім, і яны былі асьветленыя ягоным зьзяньнем. Пастухі спалохаліся. Але анёл сказаў ім: Ня бойцеся. Прыношу вам і ўсім людзям радасную вестку. Сёньня ў горадзе Давіда нарадзіўся Збавіцель: Ён – Госпад. Вось вам знак: Знойдзеце Дзіцятка, якое ляжыць у жолабе спавітае ў пялёнкі.

Раптам зьявілася вялікае мноства анёлаў. Яны славілі Бога, сьпяваючы: Слава на вышынях Богу і на зямлі супакой людзям, бо любіць іх Бог. І вось пастухі засталіся зноў самі. Яны сказалі адзін аднаму: Пойдзем у Бэтлеем і пабачым, што там здарылася. Прыйшоўшы, яны знайшлі Марыю і Язэпа, і Дзіцятка ў жолабе. Яны расказалі ім, што Бог сказаў ім аб Дзіцяці. Усе, што чулі, зьдзівіліся.



А Марыя захоўвала ўсе словы ў сэрцы сваім і разважала над імі.

Пастухі вярнуліся да сваіх статкаў. Яны славілі Бога ў песьнях і дзякавалі Яму за ўсё, што бачылі і чулі. Калі Дзіцятку споўнілася восем дзён, далі Яму імя, якое Габрыель аб'явіў: Ісус, што значыць „Бог збаўляе''. (Лк 2:1–21)

## 49. Ён — Кароль юдэйскі

Калі Ісус нарадзіўся, у Ерусаліме панаваў кароль Гэрад. І вось прыйшлі туды тры мудрацы з Усходу, пытаючыся: Дзе нованароджаны Кароль юдэйскі? Мы бачылі Ягоную зорку на небе і прыйшлі пакланіцца Яму.

Калі Гэрад пачуў гэта, ён спалохаўся. Жыхары Ерусаліму таксама былі заклапочаныя. Гэрад паклікаў сьвятароў і вучоных мужоў, якія ведалі Сьвятое Пісаньне, і спытаўся ў іх: Дзе мае нарадзіцца Мэсыя, Збавіцель? Яны адказалі: У Бэтлееме, бо так сказаў прарок Міхей: І ты Бэтлееме, што ў краіне Юды, зьяўляешся важным горадам князевым, бо ў табе народзіцца Той, хто будзе правадніком і ўладаром Ізраільскага народу.

Гэрад адпусьціў мудрацоў у Бэтлеем, кажучы: Ідзеце і знайдзеце, дзе Дзіцятка. Знайшоўшы, скажэце мне, каб я мог пайсьці і пакланіцца Яму. Калі мудрацы пайшлі ў дарогу, зорка, якую яны бачылі на Усходзе, ішла перад імі і затрымалася над месцам, дзе быў Ісус. Яны ўсьцешыліся ад усяго сэрца. Увайшоўшы, яны ўбачылі Марыю і Дзіцятка і пакланіліся Яму. Пасьля яны далі Яму падарункі, якія прынесьлі з сабою: золата, ладан і духмяны алей. Уночы Бог сказаў ім не вяртацца да Гэрада, і яны пайшлі дамоў іншай дарогаю. (Мц 2:1–12)

## 50. Яго прасьледуюць

Уночы Бог загадаў Язэпу ў сьне: Устань, вазьмі Дзіцятка і Ягоную маці, ідзі ў Ягіпет і заставайся там, пакуль не скажу табе. Гэрад хоча забіць Дзіцятка. Язэп, не чакаючы раніцы, устаў і вырушыў у дарогу ў Ягіпет разам з Марыяй і Дзіцяткам Ісусам. Гэрад, убачыўшы, што мудрацы не вярнуліся ў Ерусалім, напоўніўся злосьцю. Ён загадаў пазабіваць у Бэтлееме і ваколіцы ўсіх дзетак мужчынскага полу, якім было менш за два гады. Пасьля, калі Гэрад памёр, анёл загадаў Язэпу ў сьне: Устань, вазьмі Дзіця і маці Ягоную і вяртайся ў краіну Ізраіля. Яны вярнуліся і пасяліліся ў Назарэце. (Мц 2:13–23)

## 51. Ён належыць Богу

Кожны год на сьвята Пасхі бацькі Ісуса хадзілі на паломніцтва ў Ерусалім. Калі Ісусу споўнілася



дванаццаць гадоў, яны ўзялі Яго з сабою. Пасьля сьвятаў яны пайшлі дамоў. Ісус, бяз іхняга ведама, застаўся ў Ерусаліме. Ягоныя бацькі не адразу заўважылі, што Яго няма. Увечары яны пачалі шукаць Яго сярод сваякоў і знаёмых і, не знайшоўшы, вярнуліся ў Ерусалім. На трэці дзень знайшлі Яго ў сьвятыні. Ісус сядзеў у таварыстве настаўнікаў Сьвятога Пісаньня. Ён слухаў, што яны казалі, і задаваў пытаньні. Усе дзівіліся з Ягоных разумных пытаньняў і адказаў.

Калі бацькі ўбачылі Яго, яны сумеліся. Маці сказала Яму: Дзіця маё, чаму Ты гэта зрабіў нам? Твой бацька і я, поўныя трывогі, шукалі Цябе ўсюды. Ісус адказаў: Чаму вы шукалі Мяне? Ці ж ня ведаеце, што Маё месца ў доме Айца Майго? Пасьля гэтага Ісус вярнуўся з імі ў Назарэт і слухаўся іх. (Лк 2:41–52)

## 52. Сьведчаньне Яна Хрысьціцеля

Ян, сын сьвятара Захара і жонкі ягонай Альжбеты, жыў у пустыні. Калі Бог паклікаў яго быць Ягоным пасланцом, ён пайшоў на раку Ярдан і пачаў казаць людзям: Пакайцеся! Пакіньце вашы дрэнныя шляхі і ахрысьціцеся ў Ярдане, каб Бог адпусьціў вам вашы правіны. Усё гэта было, як прадказаў прарок Ісая: Голас чутны ў пустыні: Рыхтуйце сьцежкі Госпаду, рабеце простымі шляхі Богу. Кожная лагчына будзе напоўненая, кожная гара і ўзгорак будуць зраўнаныя. Усё крывое станецца простым і шурпатае гладкім. Усё чалавецтва ўбачыць Божае збаўленьне. (Ісая 40:3–5)

Многія прыходзілі на Ярдан да Яна. Яны прасілі хросту і пыталіся: Што нам трэба рабіць? Ян адказваў: Хто мае дзьве вопраткі, хай аддасьць адну таму, хто ня мае ніводнай. Хто мае ўдосталь ежы,

хай падзеліцца з галодным. Мытнікам ён казаў: Не дамагайцеся больш таго, што належыцца. А жаўнерам: Не рабуйце, не крыўдзіце, будзьце задаволеныя з вашай заплаты. Многія думалі, што Ян – Мэсыя, Збавіцель. Але Ян адказаў ім: Я хрышчу вадою. Той, хто ідзе за мною, дужэйшы за мяне. Я не дастойны разьвязаць Ягоных сандаляў. Ён будзе хрысьціць вас Духам Сьвятым і агнём. (Лк 3:1–18)

## 53. Богазьяўленьне

Калі Ісусу споўнілася трыццаць гадоў, Ён прыйшоў да Яна на Ярдан і быў ахрышчаны, як усе іншыя. Тады Ён памаліўся. І вось неба адчынілася і Дух Сьвяты зышоў на Яго ў выглядзе голуба. У той самы час быў чутны голас з неба: Ты – Сын Мой любы, Табе спагадаю. (Лк 3:21–23)



# ІСУС АЗДАРАЎЛЯЕ І НАВУЧАЕ: ЗЬМЯНЕЦЕ ЖЫЦЬЦЁ ВАША

## 54. Навука Ісусава

Ісус прыйшоў у Галілею. Ён прапаведаваў Евангельле Божае і казаў: Ужо час. Валадарства Божае ўжо блізка. Дык напраўляйце шляхі вашы і верце словам Маім. (Мк 1:14–15)

Прыйшоўшы ў свой горад Назарэт, Ісус пайшоў у суботу ў сынагогу. Там Ён узяў кнігу прарока Ісаі і пачаў чытаць: Дух Божы, Госпад, на мне, бо Ён выбраў мяне. Ён паслаў мяне несьці Добрую Вестку бедным; абвяшчаць вызваленьне палонным, прасьвятленьне сьляпым; прыгнечанах выпусьціць на волю і прапаведаваць час ласкі Божае.

Скончыўшы чытаць, Ён сказаў: Словы, якія вы чулі, сёньня споўніліся. Спачатку яны ўсе зьдзівіліся і ўсьцешыліся, але пасьля пачалі сумнявацца: Ці ж гэта не Язэпаў сын? Ісус адказаў: Сапраўды кажу вам, ніхто не прарок на сваёй бацькаўшчыне.

Калі людзі пачулі гэта, яны напоўніліся злосьцю. Устаўшы, яны схапілі Ісуса і вывелі за горад, хочучы скінуць Яго са скалы. Але яны не маглі зрабіць Ісусу шкоды. (Лк 4:16–30)

## 55. Рыбакі – першыя вучні Ісуса

Ісус прыйшоў на бераг Галілейскага возера. Там Ён убачыў Сымона, якога звалі таксама Пятром, і ягонага брата Андрэя. Яны якраз зьбіраліся закінуць сеці, бо былі рыбакамі. Ісус сказаў ім: Хадзеце за Мною. Я ўчыню вас лаўцамі людзей. Браты пакінулі свае сеці і пайшлі ўсьлед за Ісусам.



Крыху далей Ісус убачыў Якуба, сына Забэдэевага, і брата ягонага Яна. Яны сядзелі ў лодцы разам са сваім бацькам і правілі сеці. Ісус паклікаў іх. Адразу яны пакінулі лодку і бацьку і пайшлі ўсьлед за Ім. (Мц 4:18–22)

### 56. Аздараўленьне расслабленага

Ісус прыйшоў у Капэрнаум. Хутка ўвесь горад даведаўся аб гэтым. Вялікі натоўп людзей сабраўся ў хаце, дзе ён затрымаўся. Ісус казаў людзям, што Бог любіць іх.

І вось чацьвёра прынесьлі расслабленага, які ня мог хадзіць. Ня могучы даступіцца да Ісуса дзеля натоўпу, яны ўзьлезьлі на страху, зрабілі дзірку над месцам, дзе Ён стаяў, і праз яе спусьцілі расслабленага. Ісус убачыў іхнюю веру і сказаў расслабленаму: Адпускаюцца табе грахі твае.



Некаторыя кніжнікі, пачуўшы, што сказаў Ісус, падумалі ў сабе: Як сьмее ён так гаварыць? Ён блюзьніць. Ніхто, апрача Бога, ня можа адпускаць грахі. Ісус ведаў іхнія думкі і сказаў ім: Што вы задумалі ў сэрцах вашых? Што лягчэй сказаць: Адпускаюцца табе грахі твае; ці загадаць кульгаваму: Устань, вазьмі твой ложак і ідзі? Але ведайце, што Я маю ўладу ад Айца адпускаць грахі. Тады Ён сказаў расслабленаму: Устань, вазьмі свой ложак і ідзі дамоў! Чалавек адразу ўстаў, узяў свой ложак і пайшоў. Усе бачылі гэта. Яны ўславілі Бога, кажучы адзін аднаму: Мы ніколі ня бачылі нічога падобнага. (Мк 2:1–12)

## 57. Ісус кліча грэшніка

Мытнікі ня цешыліся добрай славаю сярод людзей. Яны часта вымагалі падаткі большыя, чым належа-

лася, і супрацоўнічалі з рымлянамі, якія былі акупантамі. Дзеля гэтага фарысэі не хацелі мець нічога супольнага з імі.

Аднойчы Ісус ішоў уздоўж берагу Галілейскага возера і ўбачыў мытніка на імя Леві, які сядзеў у сваёй будцы. Ісус сказаў яму: Ідзі за мною. Леві ўстаў і пайшоў за Ісусам. Калі Ісус з вучнямі вячэраў у доме Леві, там сабралася шмат мытнікаў і грэшнікаў. Фарысэі і кніжнікі пыталіся ў вучняў: Чаму ваш Настаўнік вячэрае разам з грэшнікамі? Ісус, пачуўшы гэта, адказаў: Не здаровыя, але хворыя маюць патрэбу ў лекары. Я прыйшоў паклікаць не праведнікаў, а грэшнікаў. (Мк 2:13–17)

## 58. Ісус выбірае дванаццаць апосталаў

Ісус пайшоў на гару. Ён паклікаў да сябе вучняў, што былі з ім, і выбраў спасярод іх дванаццаць. Яны мелі быць заўсёды з Ім, бачыць усё, што Ён чыніў, і чуць, чаму Ён навучаў. Гэта былі дванаццаць апосталаў, якіх Ісус пасьля меўся пасылаць абвяшчаць Добрую Вестку па ўсім сьвеце і аздараўляць хворых. Вось імёны дванаццацёх: Сымон, якому Ён даў імя Пятро, Якуб і ягоны брат Ян, Андрэй, Піліп, Баўтрамей, Мацьвей (ён жа Леві), Тамаш, Якуб сын Альфея, Тадэй, Сымон і нарэшце Юда Іскарыёт, які пасьля прадаў яго. (Мк 3:13–19)

## 59. Ісус выбірае Сабе народ

Ісус хадзіў па Галілеі. Ён навучаў у сынагогах, абвяшчаў Евангельле Божае і аздараўляў хворых і нядужых. Вестка аб Ім разышлася па ўсёй краіне. Людзі прыходзілі да Яго здалёку. Убачыўшы вялікі натоўп, Ісус узышоў на ўзгорак. Ён сеў, і вучні Ягоныя селі вакол Яго. Тады Ён пачаў навучаць:



Шчасьлівыя ўбогія ў вачох Бога, бо валадарства нябеснае належыць ім.

Шчасьлівыя ўсе, што сумуюць і тужаць, бо Бог іх суцешыць.

Шчасьлівыя ціхія і лагодныя, бо Бог дасьць ім у спадчыну зямлю.

Шчасьлівыя тыя, што жадаюць справядлівасьці, бо іхняе жаданьне будзе споўненае.

Шчасьлівыя міласэрныя, бо Бог будзе міласэрны для іх.

Шчасьлівыя чыстыя сэрцам, бо яны ўбачаць Бога.

Шчасьлівыя міратворцы, бо яны будуць звацца дзецьмі Божымі.

Шчасьлівыя ўсе, каго прасьледуюць за тое, што яны чыняць волю Божую, бо іхняе ёсьць валадарства нябеснае. (Мц 4: 23–25, 5:1–10)

## 60. Ісусавы правілы жыцьця

Вы ведаеце прыказаньне: Не забівай. Кожны, хто заб'е другога, належыць суду. Я ж кажу вам: Хто злуецца на брата свайго, належыць суду. (Мц 5:21)

Калі ідзеш прынесьці дар Богу і ўспомніш, што брат твой мае нешта супроць цябе, пакінь твой дар перад ахвярнікам, вярніся і пагадзіся з братам тваім. Тады прыйдзі і ахвяруй твой дар. (Мц 5:23)

Вы ведаеце загад: Жанатыя павінны заставацца верныя адно аднаму. Я ж кажу вам: хто гляне з пажаданьнем на другую жанчыну ці на другога мужчыну, той ужо зграшыў у сэрцы сваім. (Мц 5:27–28)

Вы чулі: Любі бліжняга твайго і ненавідзь ворага твайго. Я ж кажу вам: Любеце ворагаў вашых, рабеце дабро тым, што крыўдзяць вас. Калі будзеце так пастулаць, дык будзеце дзецьмі Айца вашага нябеснага. Ён загадвае сонцу сьвяціць аднолькава добрым і благім і пасылае дождж на праведнікаў і няправедных. (Мц 5:43–45)

Любеце ворагаў вашых, чынеце дабро ім і пазычайце тым, хто ня мае, нават калі вы ня ўпэўненыя, што атрымаеце назад. Бог вас узнагародзіць: вы будзеце Ягонымі дзецьмі. Бо Ён добры для няўдзячных і грэшнікаў. Будзьце міласэрныя, як Ён. (Лк 6:35–36)

Не судзеце іншых, і Бог ня будзе судзіць вас. Не асуджайце нікога, і Бог не асудзіць вас. Прабачайце адзін аднаму правіны, і Бог прабачыць вам. Давайце, і Бог дасьць вам. (Лк 6:37–38)

## 61. Малітва Гасподняя

Ісус сказаў вучням Сваім: Вось як вам трэба маліцца: Войча наш, што ў небе, сьвяціся імя Тваё,

прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая, як у небе, так і на зямлі. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёньня. І прабач нам нашы правіны, як і мы прабачаем вінаватым нашым. І ня ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога. (Мц 6:9–13)

### 62. Ісус вяртае жыцьцё памёрламу

Ісус і вучні прыйшлі ў горад Наін. З імі ішоў вялікі натоўп людзей. Ля гарадзкой брамы яны сустрэлі людзей, якія несьлі на пахаваньне маладога чалавека, адзінага сына ў маці. Яна была ўдава і цяпер засталася адна. Ейныя суседзі і прыяцелі ішлі разам з ёю.

Ісус убачыў жанчыну і, зьлітаваўшыся над ёю, сказаў: Ня плач. Тады падышоў да памёрлага і паклаў на яго руку. Тыя, што несьлі памёрлага, затрымаліся. Ісус сказаў юнаку: Кажу табе, устань! І вось памёрлы сеў і пачаў гаварыць. Ісус аддаў яго маці.

Усе прысутныя здумеліся і пачалі славіць Бога, кажучы: Вялікі прарок зьявіўся сярод нас; сам Бог памагае Свайму народу. Вестка аб цудах, якія чыніў Ісус, разышлася па ўсёй краіне. (Лк 7:11–17)

### 63. Чаго баіцеся?

Аднойчы ўвечары Ісус сказаў вучням: Пераплывём на другі бок возера. Яны ўвайшлі ў човен і паплылі. Раптам на возеры ўзьнялася вялікая бура. Хвалі залівалі човен, і ён пачаў напаўняцца вадою. Але Ісус спаў на карме. Вучні абудзілі Яго і сказалі: Настаўнік, ці Цябе ня рупіць, што мы гінем?

Ісус устаў і загадаў ветру і вадзе супакоіцца. І вось настала цішыня. Тады Ісус сказаў вучням: Чаго вы спалохаліся? Чаму ў вас няма веры? Вучні



былі поўныя подзіву і казалі адзін аднаму: Ён не звычайны чалавек: нават вецер і хвалі слухаюцца Яго. (Мк 4:35–41)

### 64. Ісус корміць галодных

Ісус хацеў быць адзін са Сваімі вучнямі. Але народ усюды ішоў за Ім. Ісус гаварыў людзям аб Божым дары жыцця і аздараўляў хворых. Вечарам апосталы сказалі яму: Адпусьці людзей, хай яны пойдуць у суседнія вёскі, каб знайсьці начлег і ежу. Тут пустыня і няма нічога. Але Ісус сказаў: Вы дайце ім есьці. Яны адказалі: У нас ёсьць толькі пяць хлябоў і дзьве рыбіны. Хіба нам пайсьці і купіць ежы для ўсіх? А было там каля пяцёх тысяч мужчын і шмат жанчын і дзяцей.

Але Ісус сказаў: Пасадзеце іх грамадкамі па пяцьдзесят чалавек. Вучні зрабілі, як Ён загадаў. Тады Ісус узяў пяць хлябоў і дзьве рыбіны і, узьняўшы вочы да неба, паблаславіў іх, разламаў і даў вучням, каб яны раздалі людзям. Усе, што былі



там, наеліся ўдосталь, і яшчэ засталося дванаццаць кашоў хлеба. (Лк 9:10–17)

## 65. Хлеб жыцьця

Людзі, якія елі хлеб, казалі адзін аднаму: Ён сапраўды прарок, якога Бог паслаў у сьвет. Ісус ведаў, што яны хацелі схапіць Яго і зрабіць сваім каралём. Дзеля гэтага Ён аддаліўся ад іх.

Наступнага дня людзі прыйшлі ў Капэрнаум, шукаючы Яго. Знайшоўшы, спыталіся: Калі Ты прыйшоў сюды? Ісус адказаў: Я ведаю, што вы шукаеце Мяне толькі таму, што Я даў вам хлеба. Не клапоцьцеся аб хлебе, які прамінае. Старайцеся здабыць хлеб, які вядзе да жыцьця вечнага.

Яны спыталіся: Чаго жадае ад нас Бог? Ісус адказаў: Бог хоча толькі аднаго: каб вы верылі

ў Таго, каго Ён паслаў. Я – хлеб жыцьця. Хто прабывае са Мною, ня будзе ніколі галодны. Хто верыць у Мяне, ня будзе цярпець ніколі смагі. (Ян 6)

### 66. Вучні вызнаюць сваю веру

Ісус маліўся ў пустыні. Ягоныя вучні былі з Ім. Ён спытаўся ў іх: Што кажуць людзі аба Мне? Вучні адказалі: Некаторыя кажуць, што Ты – Ян Хрысьціцель, іншыя – што Ты Гальяш або адзін з пракаў, які прыйшоў зноў. А вы што думаеце аба Мне? – спытаўся Ісус.– Як вы думаеце, хто Я такі? Тады Пятро сказаў: Мы верым, што Ты – Мэсыя Збавіцель, якога Бог абяцаў.

Ісус загадаў вучням не гаварыць пра гэта нікому. Ён сказаў: Сын Чалавечы павінен шмат пацярпець. Старэйшыя народу, сьвятары і кніжнікі дасьведчаныя ў Сьвятым Пісаньні адкінуць Яго і засудзяць на сьмерць. Але на трэці дзень Ён уваскрэсьне. Так гаварыў Ісус аб Сабе. (Лк 9:18–22)

### 67. Сьведчаньне Айца

Ісус узяў з сабою Пятра, Якуба і Яна і ўзышоў на гару памаліцца. Калі Ён маліўся, выгляд твару Ягонага зьмяніўся і вопратка Ягоная сталася белай і сьветлай. І вось зьявіліся Майсей і Гальяш і гутарылі з Ісусам пра тое, што мае здарыцца з Ім у Ерусаліме згодна з воляй Божай. Нябеснае сьвятло акружала іх.

Пятро і два другія апосталы заснулі. Прачнуўшыся, яны ўбачылі Ісуса ў славе і двух мужоў, што былі з Ім. Калі гэтыя апошнія ўжо меліся адыходзіць, Пятро сказаў: Госпадзе, добра нам тут. Зробім тры палаткі, адну Табе, адну Майсею і адну Гальяшу. Ён ня ведаў, што казаў. Калі ён гаварыў

гэта, вялікая цёмная хмара пакрыла гару. Вучні спалохаліся. І вось голас пачуўся з хмары: Гэта Сын Мой любы, Яго слухайце. Калі голас замоўк, яны ня бачылі больш нікога апроч Ісуса. Сышоўшы з гары, вучні не сказалі нікому, што бачылі. (Лк 9:28–36)

## ІСУС НАВУЧАЕ АБ ЖЫЦЬЦІ З БОГАМ І З БЛІЖНІМІ

### 68. Каму Бог дае вечнае жыцьцё?

Адзін настаўнік Майсеевага Закону хацеў спакусіць Ісуса. Ён спытаўся ў Яго: Што мне рабіць, каб атрымаць вечнае жыцьцё? Ісус спытаўся ў сваю чаргу: Што кажа Пісаньне? Той адказаў: Любі Бога твайго ўсім сэрцам тваім, усімі думкамі тваімі, усёй сілаю тваёю. Таксама любі бліжняга твайго як самога сябе. Ты адказаў добра – сказаў Ісус. – Рабі так, і будзеш мець вечнае жыцьцё.

Але чалавек, хочучы апраўдацца, спытаўся: Хто ж мой бліжні?

Тады Ісус сказаў гэткую прыповесьць: Адзін чалавек па дарозе з Ерусаліму ў Ерыхон папаў у рукі разбойнікаў. Яны забралі ўсё, што ён меў, пабілі яго і пакінулі пры дарозе паўмёртвым. Сьвятар праходзіў тэй дарогаю. Ён убачыў паранена чалавека, але не затрымаўся. І лявіт, убачыўшы яго, перайшоў на другі бок дарогі. Апошні праходзіў там нейкі чужынец, самарытанін родам. Ён зьлітаваўся над параненым і, затрымаўшыся, абмыў яго і перавязаў ягоныя раны, пасадзіў на свайго каня, завёз у заезд і там апекаваўся ім. На другі дзень раніцай, перад тым, як ехаць далей,



ён даў гаспадару заезду грошы і сказаў: Апякуйся ім, і калі выдасі больш, я зьвярну табе, як буду вяртацца.

Ісус спытаўся ў законьніка: Хто на тваю думку з гэтых трох аказаўся бліжнім для параненага чалавека? Той адказаў: Той, хто зьлітаваўся над ім. Ісус сказаў яму: Ідзі і рабі таксама. (Лк 10:25–37)

## 69. Каму Бог дае Валадарства нябеснае?

Ісус сказаў: Калі Сын Чалавечы прыйдзе зноў у славе, Ён пакліча на суд усіх людзей. Ён аддзеліць адных ад другіх, так як пастух аддзяляе авечак ад казлоў. Адных Ён паставіць па правай руцэ сваёй, а другіх па левай.

Тады Ён скажа тым, што па правай руцэ: Хадзеце, блаславёныя Айца Майго. Вы атрымаеце ў спадчыне валадарства, прыгатаванае для вас ад

пачатку сьвету. Бо Я быў галодны і вы накармілі Мяне; Я меў смагу і вы далі Мне піць; Я быў падарожны і вы прынялі Мяне; Я быў голы і вы адзелі Мяне; быў хворы і вы адведалі Мяне; быў у вязьніцы і вы прыйшлі да Мяне. Тады тыя, што стаяць па правай руцэ, спытаюцца: Госпадзе, калі мы гэта ўсё рабілі? І Ён адкажа ім: Сапраўды кажу вам, усё, што вы зрабілі аднаму з найменшых братоў Маіх, вы зрабілі Мне.

А тым, што стаяць па левай руцэ, скажа: Чаго вы не зрабілі аднаму з найменшых братоў Маіх, вы не зрабілі Мне. (Мц 25:31–45)

## 70. Памылка багатага гаспадара

Ісус перасьцерагаў тых, што былі з Ім: Глядзеце, каб ня быць сквапнымі на багацьці, бо нават самы багаты чалавек ня можа быць пэўны свайго



жыцьця. І сказаў гэткую прыповесьць: Аднаму багатаму чалавеку ўрадзіла ніва. Ён падумаў: Што мне рабіць? Ня маю, дзе скласьці ўсё маё багацьце. Нарэшце вырашыў: Разбуру мае сьвірны, збудую большыя і складу туды маё дабро. Тады змагу сказаць сабе: Маю ўсяго ўдосталь. Майго багацьця хопіць на доўгія гады. Буду есьці, піць і весяліцца, колькі хачу. Але Бог сказаў яму: Неразумны! Сёньня ўночы памрэш. Што тады станецца з тваім багацьцем? Вось што чакае чалавека, які спадзяецца на зямныя багацьці, а не багацее ў Бога. (Лк 12:15–21)

### 71. Згубленая авечка

Многія мытнікі і грэшнікі прыходзілі да Ісуса, каб паслухаць Яго. Гэта злавала фарысеяў і кніжнікаў. Яны наракалі: Чаму гэты чалавек сябруе з грэшнікамі! Ён нават есьць разам з імі.

Тады Ісус сказаў гэткую прыповесьць: Уявіце сабе, што нехта меў сто авечак і адна з іх прапала. Ці не пакіне ён дзевяноста дзевяць і ня пойдзе шукаць тую, што згубілася, пакуль ня знойдзе яе? Знайшоўшы, ён усьцешыцца і, усклаўшы яе на плечы, прынясе дамоў. Тады скажа сваім суседзям і прыяцелям: Цешцеся са мною, бо я знайшоў згубленую авечку. Так і Бог у небе цешыцца з кожнага грэшніка, які навернецца. (Лк 15:1–7)

### 72. Добры Пастыр

Ісус сказаў: Я добры пастыр. Добры пастыр гатовы памерці за сваіх авечак. А найміт, калі бачыць ваўка, уцякае. Тады воўк кідаецца на авечак і разганяе іх. А найміт уцякае, бо ён зацікаўлены толькі ў грашах і не клапоціцца аб авечках. Я добры



пастыр. Я ведаю Маіх авечак, і Мае авечкі ведаюць Мяне. І Я гатовы памерці за Маіх авечак.

Гэбраі, якія чулі гэтыя словы, пачалі спрэчку між сабою. Некаторыя казалі: Злы дух гаворыць Ягонымі вуснамі. А іншыя пярэчылі: Чалавек, у якім злы дух, так не гаворыць. Як можа злы дух аздараўляць хворых? (Ян 10:11–14, 19–21)

## 73. Бацька і ягоныя сыны

Ісус сказаў гэткую прыповесьць: Адзін чалавек меў двух сыноў. Малодшы з іх сказаў: Бацька, дай мне маю частку маёмасьці. Тады бацька разьдзяліў маёмасьць між сыноў. Малодшы сын забраў усё, што яму належалася, пакінуў бацькоўскую хату і пайшоў у далёкую краіну. У пошуках уцехі і бясклапотнага жыцьця ён змарнаваў усё сваё багацьце.

У міжчасе ў той краіне настаў вялікі голад. Малады чалавек пачаў цярпець нястачу. Адзін гаспадар наняў яго пасьвіць сьвіньняў. Ён быў такі галодны, што гатоў быў есьці тое, чым кармілі сьвіньняў, але ніхто яму не даваў. Тады ён пачаў разважаць: У майго бацькі шмат наймітаў, і ўсе яны маюць удосталь ежы. Перад тым, як памерці з голаду, пайду да бацькі, пакаюся і скажу яму: Бацька, я зграшыў перад Богам і перад табою. Прымі мяне як аднаго з наймітаў тваіх.

Бацька ўбачыў яго здалёку і, зьлітаваўшыся, выбег яму насустрач і абняў яго. Сын сказаў: Я зграшыў перад Богам і перад табою і ня варты больш называцца тваім сынам. Але бацька загадаў слугам: Прыгатуйце бяседу і будзем цешыцца. Бо гэты мой сын быў памёр і ажыў, прапаў і зноў знайшоўся.

Старэйшы сын, вяртаючыся з поля, пачуў музыку і гуляньне. Ён спытаўся ў слугі: што здарылася? Слуга адказаў: Твой брат вярнуўся дамоў, і бацька наладзіў сьвята, бо ягоны сын вярнуўся здаровы. Тады старэйшы брат разгневаўся і не хацеў увайсьці ў хату. Бацька выйшаў да яго, але сын пачаў наракаць: Усе гэтыя гады я працаваў для цябе, і ты ня даў мне нават ягняці, каб мне павесяліцца з маімі сябрамі. Бацька адказаў: Сыне мой, ты заўсёды са мною, і ўсё маё – тваё. Але сёньня мы павінны цешыцца, бо твой брат быў мёртвы і зноў ажыў, прапаў і знайшоўся. (Лк 15:11–32)

## 74. Жабрак і багаты

Жыў аднойчы адзін багаты чалавек. Ён апранаўся ў дарагую вопратку і меў усё, што жадаў. Ля варот ягонага дому сядзеў жабрак, які зваўся Лазар. На яго страшна было глядзець. Цела ягонае было

пакрытае ранамі, ён быў заўсёды галодны і быў бы рады насыціцца тым, што падала са стала багатага. Сабакі прыходзілі і лізалі ягоныя раны.

Калі Лазар памёр, анёлы занесьлі яго ў неба да Абрагама. Багаты чалавек таксама памёр і быў пахаваны. Церпячы вялікія мукі ў пекле, ён узьняў вочы, убачыў Лазара ва ўлоньні Абрагама і ўсклікнуў: Войча Абрагаме, зьлітуйся нада мною. Пашлі Лазара, каб ён абмачыў палец у вадзе і дакрануўся да майго языка, бо я цярплю вялікія мукі ў гэтым полымі. Але Абрагам адказаў: Успомні тваё жыцьцё на зямлі. Ты меў усё, што хацеў, а Лазар нічога. Цяпер ён цешыцца, а ты мучышся. Дый між намі і вамі вялікая пропасьць, так што ніхто ня можа перайсьці адсюль да вас, ці ад вас сюды.

Тады багаты пачаў прасіць: Прашу цябе, войча, пашлі Лазара ў дом бацькі майго. Хай ён папярэдзіць братоў маіх, каб ім не папасьці ў гэтае месца мукаў. Абрагам адказаў: Яны маюць Майсея і прарокаў, хай слухаюцца іх. Але багаты прасіў далей: Так, яны маюць Майсея і прарокаў, але калі б нехта з мёртвых прыйшоў да іх, яны б напэўна паслухаліся яго. Абрагам адказаў: Калі яны ня слухаюцца Майсея і прарокаў, дык не паслухаюцца, калі нават нехта з мёртвых прыйдзе да іх. (Лк 16:19–31)

## 75. Фарысэй і мытнік

Аднойчы Ісус сустрэўся з фарысэямі. Гэта былі самаўпэўненыя людзі, якія глядзелі звысока на іншых, думаючы, што яны адны выконваюць як трэба Божыя прыказаньні. Ісус сказаў ім такую прыповесьць:

Фарысэй і мытнік прыйшлі ў сьвятыню памаліцца. Фарысэй стаў сьпераду і казаў: Дзякую Табе,

Божа, што я не такі, як іншыя людзі, ці як гэты вось мытнік. Я жыву добра з маёй жонкай, не краду, не ашукоўваю нікога, пашчу два разы на тыдзень і даю дзесяціну ў сьвятыню.

Мытнік стаяў ззаду з пахіленай галавою, біў сябе ў грудзі і маліўся: Божа, зьмілуйся нада мною грэшным. Ісус сказаў: Сапраўды кажу вам, што гэты чалавек пайшоў дамоў, атрымаўшы прабачэньне ад Бога, а той не. (Лк 18:9–14)

## 76. Вера сьляпога чалавека

Калі Ісус падыходзіў да горада Ерыхон, Ён убачыў сьляпога, які сядзеў пры дарозе і прасіў міласьціны. Пачуўшы, што вялікі натоўп народу ідзе міма, ён спытаўся: Што здарылася? Яму адказалі: Ісус з Назарэту ідзе ў горад. Тады сьляпы пачаў крычаць: Ісусе, Сыне Давіда, зьмілуйся нада



мною! Тыя, што былі з Ісусам, сварыліся на яго, кажучы: Замаўчы, сядзі ціха! Але жабрак крычаў яшчэ мацней: Сыне Давіда, зьлітуйся нада мною!

Ісус затрымаўся і загадаў прывесьці да Сябе сьляпога. Калі той падышоў, Ісус спытаўся ў яго: Што хочаш ад Мяне? Сьляпы адказаў: Госпадзе, я хачу бачыць зноў. Ісус сказаў: Будзеш бачыць. Вера твая аздаравіла цябе. І ў тую хвіліну сьляпому вярнуўся зрок. Ён пайшоў усьлед за Ісусам, славячы Бога разам з усімі іншымі. (Лк 18:35–43)

## 77. Закхей мяняе спосаб жыцьця

Калі Ісус праходзіў праз Ерыхон, адзін багаты чалавек, які зваўся Закхей – ён быў начальнікам мытнікаў – вельмі хацеў бачыць Яго. Будучы малы ростам, ён пабег наперад па дарозе, па якой Ісус меў праходзіць, і ўзьлез на дрэва. Ісус, прыйшоўшы на тое месца, затрымаўся, глянуў на Закхея і сказаў:



Закхей, злазь з дрэва. Сёньня прыйду да цябе ў госьці.

Закхей зьлез хутка з дрэва. Ён усьцешыўся, што Ісус захацеў пабываць у ягонай хаце. Але іншыя гневаліся і казалі: Ён пайшоў у госьці да грэшніка. Закхей сказаў Ісусу: Госпадзе, я аддам палову маёй маёмасьці бедным. Калі я некага скрыўдзіў, зьвярну яму ў чатыры разы больш. Ісус сказаў яму: Сёньня збаўленьне Божае прыйшло да цябе і тваёй сям'і. Я прыйшоў паклікаць і збавіць тых, што згінулі (Лк 19:1–10)

## ПАМЁР — ПАХАВАНЫ — УВАСКРОС

### 78. Ісус прыходзіць у Ерусалім на Пасху

Некалькі дзён перад Пасхай Ісус сказаў сваім вучням: Цяпер ідзем у Ерусалім. Там Я буду праданы першасьвятаром і кніжнікам, якія засудзяць Мяне на сьмерць і аддадуць у рукі рымлянам. Яны будуць зьдзекавацца з Мяне, пляваць на Мяне і біць. Наканец яны заб'юць Мяне. Але пасьля трох дзён Я ўваскросну. (Мк 10:32–34)

Калі яны падыходзілі да гораду, Ісус паслаў наперад двух вучняў, кажучы: Ідзеце ў вёску. Там убачыце маладога асла, на якім яшчэ ніхто ня езьдзіў. Адвяжэце яго і прывядзіце да Мяне. Калі нехта спытаецца ў вас, што вы робіце, адкажэце яму: Госпад патрабуе. Яны пайшлі і знайшлі ўсё, як сказаў Ісус. Адвязаўшы, прывялі асла да Яго.

Ісус сеў на асла і паехаў у Ерусалім. Людзі, што стаялі ля дарогі, пасьцілалі перад Ім сваю вопратку, быццам дыван. Яны ламалі зялёныя галінкі з прыдарожных кустоў і ўсьцілалі імі дарогу. Тыя, што былі з Ім, усклікалі: Гасанна! Блаславёны той, хто



прыходзіць у імя Гасподняе. Бласлаўёнае валадарства айца нашага Давіда, што прыходзіць у сіле. Гасанна на вышынях! (Мк 11:1–10)

## 79. Юда прадае Ісуса

За два дні перад сьвятам Пасхі першасьвятары і кніжнікі сабраліся на нараду. Яны хацелі знайсьці спосаб, як схапіць Ісуса і забіць Яго. Але яны казалі адзін аднаму: Толькі не ў сьвята, каб народ не збунтаваўся!

Адзін з дванаццацёх апосталаў, Юда Іскарыёт, прыйшоў да сьвятароў і сказаў: Я гатоў прадаць вам Ісуса. Яны ўсьцешыліся і абяцалі даць яму ўзнагароду – трыццаць сярэбраных манэтаў. Ад гэтага часу Юда шукаў выгоднае хвіліны, каб прадаць Ісуса. (Мк 14:1–2, 10–11)

## 80. Апошняя вячэра

У дзень, калі гэбраі забіваюць пасхальнае ягня, Ісус сказаў Пятру і Яну: Ідзеце ў горад. Там убачыце чалавека, які нясе збан вады. Ідзеце за ім да дому, у які ён увойдзе. Скажэце гаспадару дому: Дзе сьвятліца, у якой магу есьці пасхальную вячэру з Маімі вучнямі? Ён пакажа вам пакой. Пайшоўшы, яны знайшлі ўсё, як сказаў Ісус, і прыгатавалі пасхальную вячэру.

Увечары Ісус засеў за сталом са Сваімі апосталамі. Ён сказаў: Я вельмі хацеў есьці гэтую Пасху з вамі перад тым, як буду адданы на мукі. Кажу вам: Ня буду больш каштаваць ежы, пакуль ня прыйдзе валадарства Божае. Тады Ён узяў хлеб, аддаў падзяку, разламаў яго і даў Сваім вучням, кажучы: Бярыце, ешце, гэта Цела Маё, што за вас ломіцца.

Калі вячэра скончылася, Ісус узяў чашу і, аддаўшы падзяку, даў яе вучням, кажучы: Пійце з яе ўсе. Гэта чаша Маёй Крыві новага і вечнага Запавету, што праліваецца за вас і за ўсіх для адпушчэньня грахоў. Рабеце гэта на ўспамін аба Мне. (Лк 22:7–20)

## 81. Знак сапраўдных вучняў Ісуса

Падчас вячэры Ісус даў прыклад, як трэба любіць адзін аднаго. Ён устаў, падперазаўся ручніком, узяў міску з вадою і пачаў мыць ногі вучням. Сымон Пятро супраціўляўся, кажучы: Ці ж гэта Табе, Госпадзе, мыць мае ногі? Ісус адказаў: Пазьней зразумееш, што Я раблю. Але Пятро ўсё яшчэ не згаджаўся: Ніколі не дазволю, каб Ты мыў мне ногі. Тады Ісус сказаў: Калі не зраблю гэтага, ты ня можаш быць са Мною. Пачуўшы гэта, Пятро сказаў: Госпадзе, тады памый ня толькі ногі, але таксама рукі і галаву.



Пасьля, калі Ісус зноў сядзеў за сталом, Ён спытаўся ў вучняў: Ці зразумелі вы, што Я зрабіў? Вы называеце Мяне Настаўнікам і Госпадам. І гэта праўда. Але калі Я, ваш Настаўнік і Госпад, памыў вам ногі, дык і вы павінны мыць ногі адзін аднаму. Я даў вам прыклад. Вы павінны любіць адзін аднаго, як Я палюбіў вас. Гэта будзе знак, па якім вас будуць пазнаваць: Калі будзеце любіць адзін аднаго, усе будуць ведаць, што вы Мае вучні. Няма большай любові як калі нехта аддае жыцьцё сваё за прыяцеляў. Вы Мае прыяцелі. Рабеце, як Я вас навучыў.

Ісус гаварыў далей: Ужо нядоўга буду з вамі. Але не палохайцеся. Верце ў Бога і ў Мяне верце. Я іду да Айца. Там Я прыгатую месца для вас. Тады прыйду зноў, каб узяць вас да Сябе. Будзеце са Мною заўсёды. Я папрашу Айца паслаць вам магут-

нага памочніка, Духа Сьвятога. Ён – Дух Праўды, які напомніць вам аб усім, што Я казаў вам. (Ян 13–15)

## 82. Ісус моліцца на Аліўнай гары.

Пасьля вячэры Ісус і вучні пайшлі на Аліўную гару. Калі яны прыйшлі туды, Ісус сказаў вучням: Малецеся, каб не паддацца спакусе. Адышоўшыся ад іх крыху і стаўшы на калені, пачаў маліцца і тужыць: Войча, калі такая Твая воля, дай, каб Мяне мінула цярпеньне і сьмерць. Але няхай будзе, як Ты хочаш, а не Я.

Ісус быў так поўны пакутлівай трывогі, што Ягоны пот, які падаў на зямлю, быў быццам кроплі крыві. Нарэшце Ён устаў і вярнуўся да вучняў, якія паснулі ад страху і турботаў. Ісус сказаў ім: Як можаце спаць? Будзьце чуйныя і малецеся, каб



застацца непахіснымі ў выпрабаваньнях, якія ўжо блізка.

Калі Ісус яшчэ гаварыў, вялікі натоўп людзей увайшоў у сад. Іх вёў Юда Іскарыёт. Падышоўшы да Ісуса, ён намерваўся пацалаваць Яго. Ісус спытаўся ў яго: Юда, ці ты хочаш выдаць Мяне гэтым пацалункам? Калі вучні зразумелі, што людзі гэтыя прыйшлі схапіць Ісуса, яны спыталіся: Госпадзе, ці хочаш, каб мы заступіліся за Цябе? Адзін з іх выцягнуў меч і адсек правае вуха слузе першасьвятара. Але Ісус устрымаў іх: Не рабеце гэтага. Ён дакрануўся да вуха параненага слугі і аздаравіў яго. Тады Ён зьвярнуўся да тых, што прыйшлі ўзяць Яго: Вы прыйшлі з мячамі і каламі, каб схапіць Мяне. Ці ж Я ня быў з вамі кожны дзень у сьвятыні? Але цяпер прыйшла ваша гадзіна, наступіла валадарства цемры. (Лк 22:39–53)

## 83. Пятро адракаецца Госпада

Схапіўшы Ісуса, павялі Яго ў дом першасьвятара. Счакаўшы крыху, Пятро пайшоў за Ім здалёку. На панадворку гарэла вогнішча, і Пятро сеў сярод тых, што грэліся пры агні. Адна служанка ўбачыла Пятра і пазнала яго: Ці ня ты адзін з тых, што былі з Ісусам? Але Пятро пачаў адракацца: Я ня ведаю Яго. Хутка пасьля гэтага нехта іншы пазнаў яго: Ты адзін з вучняў Ісуса. Пятро запярэчыў: Не, я не Ягоны вучань.

Крыху счакаўшы, нехта зноў сказаў: Ты галілеянін і быў з Ісусам. Але Пятро настойваў на сваім: Ня ведаю, аб чым ты гаворыш. У той час запяяў певень. Пятро прыпомніў, што сказаў яму раней Ісус: Перш, чым запяе певень, адрачэшся Мяне тройчы. Пятро выйшаў вонкі і горка заплакаў. (Лк 22:54–62)

## 84. Ісус перад Найвышэйшай Радай

Раніцай сабраліся старэйшыя народу, першасьвятары і кніжнікі. Яны загадалі прывесьці Ісуса і спыталіся ў Яго: Калі Ты Збавіцель, якога Бог абяцаў людзям, дык скажы нам. Ісус адказаў: Калі скажу вам, не паверыце; і калі спытаюся ў вас, не дасьце адказу. Але ад гэтага дня будзеце бачыць Сына Чалавечага, які сядзіць па правай руцэ Айца. Яны зноў спыталіся ў Яго: Ці Ты – Сын Божы? Ісус адказаў: Вы самі кажаце, што Я. Тады яны закрычалі: Нам ня трэба больш сьведкаў! Мы чулі, што Ён сказаў. (Лк 22:66–71)

## 85. Ісус перад Пілатам

Начальнікі народу прывялі Ісуса да рымскага губэрнатара Понтыя Пілата. Яны абвінавацілі Яго,



кажучы: Ён бунтуе народ! Ён кажа, што Ён – Збавіцель, Кароль. Пілат спытаўся ў Ісуса: Ці Ты сапраўды Кароль? Ісус адказаў: Маё каралеўства ня з гэтага сьвету. Калі б яно было з гэтага сьвету, Мае слугі заступіліся б за Мяне. Я Кароль, які прыйшоў на сьвет, каб сьведчыць аб праўдзе. Усе, каму праўда дарагая, слухаюць Маіх слоў. Тады Пілат спытаўся: Што такое праўда?

Пілат сказаў тым, што абвінавачвалі Ісуса: Я не знаходжу ў Ім ніякай правіны. Кожны год на Пасху я вызваляю аднаго з вашых вязьняў. Хочаце, каб я вызваліў Караля Юдэйскага? Але яны закрычалі: Не, не Ісуса! Вызваль Вараву. Варава быў разбойнік. Тады Пілат вызваліў Вараву, а Ісуса аддаў на бічаваньне. Жаўнеры сьплялі цярновы вянок і ўсклалі на галаву Ісусу. На плечы накінулі Яму пурпуровы плашч і пачалі зьдзекавацца з Яго, кажучы: Вітай, Кароль юдэйскі! І білі Яго па твары.

Пілат вывеў зноў Ісуса да тых, што абвінавачвалі Яго і сказаў: Глядзеце, вось чалавек. Але яны закрычалі: Укрыжуй Яго! Тады Пілат сказаў ім: Вазьмеце Яго і ўкрыжуйце самі. Я не знаходжу ў Ім ніякай віны годнай сьмерці. Але яны адказалі: Мы маем закон, згодна з якім Ён мусіць памерці, бо Ён сьцьвярджае, што Ён – Сын Божы. Яны так доўга націскалі на Пілата, што той, баючыся закалоту, аддаў Ісуса на крыжовую сьмерць. (Ян 18:28–19:16)

### 86. Ісус памірае на крыжы

Ісус нёс крыж за горад на ўзгорак, які называўся Гальгота. Там прыбілі Яго да крыжа. Разам з Ім расьпялі двух разбойнікаў, аднаго па правай, а другога па левай руцэ Яго. Пілат загадаў павесіць на крыжы Ісуса надпіс: Ісус Назаранін, Кароль



Юдэйскі. Гэта не спадабалася сьвятаром, і яны прасілі Пілата: Зьмяні надпіс, каб на ім стаяла: Ён называў Сябе Каралём Юдэйскім. Але Пілат застаўся непарушны, кажучы: Як напісаў, хай так застаецца.

Чатыры жанчыны стаялі ля крыжа Ісуса: Ягоная маці і сястра яе, жонка Кляопы і Марыя Магдалена. Вучань, якога любіў Ісус, стаяў побач з Ягонай маці. Калі Ісус убачыў іх, Ён сказаў Сваёй маці: Вось твой сын. А вучню сказаў: Вось твая маці. Ад таго часу вучань узяў Марыю да сябе і апекаваўся ёю.

Ведаючы, што ўжо ўсё споўнілася, Ісус сказаў: Ужо ўсё выканана. І, схіліўшы галаву, памёр. (Ян 19:17–30)

## 87. Пахаваньне Ісуса

Язэп з Арыматэі быў чалавекам знатным. Ён належаў да Рады гэбрайскай і чакаў прыйсьця валадарства Божага. Пад вечар ён прыйшоў да Пілата і папрасіў: Дазволь мне зьняць з крыжа цела Ісуса і пахаваць Яго. Пілат дазволіў Язэпу пахаваць Ісуса. Язэп купіў палатна, зьняў з крыжа цела Ісуса, абвіў Яго ў палатно і паклаў у новую магілу, выбрубленую ў скале. Тады ён прываліў уваход у магілу вялікім каменем. Дзьве жанчыны, Марыя Магдалена і Марыя, маці Ясіі, глядзелі куды Язэп паклаў цела Ісуса. (Мк 15:42–47)

## 88. Анёл абвяшчае добрую вестку

Калі мінула Субота, Марыя Магдалена, Марыя, маці Якубава, і Саламея купілі духмяных алейкаў,



каб памазаць імі цела Ісуса. Як толькі разьвіднелася, яны прыйшлі да магілы. Ідучы, яны разважалі між сабою: Хто нам адваліць камень ад уваходу ў магілу?

Прыйшоўшы, знайшлі камень ужо адвалены. Жанчыны ўвайшлі ў магілу і ўбачылі там чалавека ў сьветлай адзежы, які сядзеў з правага боку. Яны спалохаліся. Але анёл – бо гэта быў ён – сказаў: Ня бойцеся! Вы шукаеце Ісуса Назараніна, які памёр на крыжы. Яго няма тут. Ён уваскрос. Глядзіце, вось месца, дзе ляжала Ягонае цела. Дык ідзеце і абвясьцеце вучням Ягоным, асабліва Пятру, што Ён будзе чакаць іх у Галілеі. Там убачыце Яго, як Ён абяцаў вам. Пачуўшы гэта, жанчыны, ахопленыя страхам, пабеглі хутка ад магілы. Яны не казалі нікому, што бачылі, бо баяліся. (Мк 16:1–8)

### 89. Сустрэча двух вучняў з Ісусам

Таго самага дня два вучні ішлі з Ерусаліму ў Эмаус. Ідучы, яны гутарылі аб усім, што бачылі і чулі апошнім часам у Ерусаліме. І вось Ісус падышоў да іх, але яны Яго не пазналі. Ісус спытаўся: Аб чым вы гутарыце? Поўныя суму, вучні затрымаліся. Адзін з іх, Кляопа, сказаў: Ці ты сапраўды ня ведаеш, што здарылася ў Ерусаліме? Ісус сказаў: Што?

Тады вучні расказалі яму: Мы гутарылі аб Ісусе Назараніне. Ён быў вялікім прарокам, магутным у слове і дзеяньнях перад Богам і людзьмі. Яго асудзілі на сьмерць, і Ён памёр. Мы спадзяваліся, што магчыма Ён – Збавіцель. Але вось ужо тры дні, як усё гэта здарылася. Сёньня раніцай некаторыя жанчыны, што былі Ягонымі вучаніцамі, пайшлі да Ягонай магілы, але не знайшлі там Ягонага цела. Яны кажуць, што бачылі анёла, пасланага Богам, і той абвясьціў ім, што Ісус жывы.



Пасьля гэтага некаторыя вучні пайшлі да магілы і знайшлі там усё так, як казалі жанчыны. Але самога Ісуса яны ня бачылі.

Пачуўшы гэта, незнаёмы сказаў вучням: Ці ж вы не разумееце, што здарылася? Ці вы ня верыце словам пракрокаў, якія прадказалі, што Збавіцель мусіў пацярпець, каб Бог мог Яго ўзвысіць і даць Яму ўладу і жыцьцё? І Ён вытлумачыў ім усё што было напісана ў Сьвятым Пісаньні пра Збавіцеля. Калі яны прыйшлі ў Эмаус, Ісус зрабіў выгляд, быццам хацеў ісьці далей. Але вучні пачалі прасіць Яго: Астанься з намі, бо ўжо хутка вечар. Ісус застаўся.

Калі яны сядзелі за сталом у хаце, Ісус узяў хлеб, памаліўся, паблаславіў, разламаў яго і даў ім. У гэтую хвіліну вочы іхнія адчыніліся і яны пазналі Госпада. Але Ён зьнік, і яны не маглі больш бачыць Яго. Тады яны сказалі адзін аднаму: Ці ж нашы сэрцы не гарэлі, калі Ён выясьняў нам Слова Божае?

Устаўшы, яны адразу пайшлі назад у Ерусалім. Там былі сабраныя адзінаццаць апосталаў і мноства вучняў, якія сказалі ім: Сапраўды Госпад уваскрос! Ён паказаўся Пятру. Тады два вучні расказалі аб тым, што здарылася з імі па дарозе ў Эмаус і як яны пазналі Ісуса пры ламаньні хлеба. (Лк 24:13–35)

### 90. Сустрэча ў Ерусаліме

Вечарам таго дня дзьверы ў хату, дзе сабраліся вучні, былі зачыненыя дзеля страху перад тымі, хто іх прасьледаваў. І вось Ісус стаў сярод іх і сказаў: Мір вам! Ён паказаў ім раны на сваіх руках. Калі вучні пазналі Госпада, яны вельмі ўсьцешыліся. Ісус сказаў ім другі раз: Мір вам! Як Айцец паслаў Мяне, так Я пасылаю вас. Тады сказаў: Прымеце Духа Сьвятога. Каму адпусьціце грахі, таму і Бог адпусьціць; а каму не адпусьціце, таму і Бог не адпусьціць. (Ян 20:19–23)

### 91. Госпад пасылае сваіх вучняў навучаць усе народы

Адзінаццаць апосталаў пайшлі ў Галілею, на гару, як Ісус загадаў ім. Там яны ўбачылі Ісуса. А некаторыя з іх усумніліся. Ісус падышоў да іх і сказаў: Айцец мой даў Мне ўсю ўладу на небе і зямлі. Дык вось Я пасылаю вас: ідзеце да ўсіх народаў зямлі, навучайце іх і хрысьціце ў імя Айца і Сына і Сьвятога Духа. Вучыце іх захоўваць усё, што Я вам загадаў. І Я буду з вамі праз усе дні аж да сканчэньня сьвету. (Мц 28:16–20).

# ІСУС ЗАЎСЁДЫ З НАМІ

## 92. Разьвітаньне з вучнямі

Ад Вялікадня мінула сорак дзён, падчас якіх Госпад паказваўся шмат разоў сваім вучням. Нарэшце Ён сказаў ім: Аставайцеся ў Ерусаліме і чакайце Пацяшыцеля, якога Айцец пашле вам. Ян хрысьціў вадою ў Ярдане. Вы ж будзеце ахрышчаныя Духам Сьвятым. І будзеце Мне сьведкамі тут у Ерусаліме і ва ўсіх краінах сьвету, аж да канцоў зямлі.

Сказаўшы гэта, Ён пачаў уздымацца на неба. Хмара пакрыла і схавала Яго. Калі вучні ўсё яшчэ ўглядаліся ў неба, два мужы ў сьветлых адзежынах зьявіліся сярод іх і сказалі: Чаго стаіце, гледзячы на неба? Ісус, які ўзьнёсься ад вас да неба, прыйдзе зноў так, як вы бачылі Яго. (Дзеяньні 1:1–11)

## 93. Новы народ Божы: Царква Хрыстовая

У дзень Сёмухі ўсе вучні Ісуса – мужчыны і жанчыны – а таксама Марыя, маці Ягоная, былі сабраныя разам. Яны чакалі Пацяшыцеля, якога абяцаў ім Ісус. Раптам пачуўся з неба шум, быццам моцны вецер, і напоўніў увесь дом. Вогненныя языкі зьявіліся і спачылі на кожным з іх. Яны напоўнілся Духам Сьвятым і пачалі славіць Бога і Сына Ягонага Ісуса Хрыста.

У тым часе ў Ерусаліме з нагоды сьвята было шмат людзей з розных краінаў. Вялікі натоўп сабраўся каля дому, дзе былі вучні. Людзі дзівіліся, бо кожны з іх чуў, як вучні Ісуса гаварылі на ягонай мове. Зьбянтэжаныя, яны пыталіся адзін у аднаго,



што б гэта магло значыць. Тады Пятро пачаў гаварыць: Слухайце мяне. Я выясьню вам усё. Сёньня споўнілася сказанае прарокам Яелем: Калі прыйдзе поўня часу, Бог сышле Духа свайго на людзей. Вы памятаеце Ісуса Назараніна. Ён прыйшоў з волі Божай рабіць тое, што Бог загадаў. Вы самі былі сьведкамі гэтага. Бог паслаў свайго Сына, а вы аддалі Яго рымлянам на сьмерць. Ён памёр на крыжы, але Бог узьняў Яго з мёртвых. Мы ўсе сьведкі Ягоныя. Бог усхваліў Яго. Ён наш Збавіцель.

Людзі прынялі да сэрца словы Пятра. Яны пыталіся: Што нам рабіць, браты? Пятро адказаў: Зьмяніце ваша жыцьцё. Прымеце хрост у імя Ісуса Хрыста для адпушчэньня грахоў. Тады Ён пашле вам Сьвятога Духа. Многія паслухаліся Пятра і ахрысьціліся. У той дзень тры тысячы людзей сталіся сябрамі грамады вучняў Ісуса Хрыста. (Дзеяньні 2)

## 94. Жыць і паміраць дзеля Ісуса

Апосталы спачатку прабывалі ў Ерусаліме. Яны аздараўлялі нядужых і сьведчылі пра жыцьцё і сьмерць Ісуса. Лік тых, што паверылі, рос няспынна. Сьвятары і настаўнікі Ізраіля хацелі, каб людзі забыліся аб Ісусе. Дзеля гэтага яны схапілі апосталаў і, зрабіўшы допыт, забаранілі ім згадваць імя Ісуса. Але апосталы не зважалі на забарону. Сьцяпан, адзін з першых дыяканаў, быў пабіты камянямі. Перад тым, чым упасьці пад градам камянёў, ён усклікнуў: Бачу неба адчыненае і Сына Чалавечага, які сядзіць па правай руцэ Бога. Госпадзе Ісусе, прымі душу маю!

Вучні Ісуса цярпелі прасьлед у Ерусаліме. Тыя, што вызналі адкрыта сваю веру, былі выгнаныя з гораду. Разышоўшыся па ўсім сьвеце, яны расказвалі аб тым, што Бог учыніў для людзей праз Ісуса Хрыста. Усюды, дзе яны былі, паўставалі новыя грамады верных. (Дзеяньні 2–8).

## 95. Павал – апостал народаў.

Павал быў набожным гэбраем. Ён дасканала ведаў Сьвятое Пісаньне, але быў перакананы, што Ісус не Збавіцелл, а ашуканец, які зводзіць народ. Дзеля гэтага Павал езьдзіў па ўсіх гарадох, прасьледуючы вучняў Ісуса і стараючыся змусіць іх пакінуць іхнюю веру. Аднойчы ён ехаў у Дамаск, каб арыштаваць там хрысьціянаў і прывесьці іх на суд у Ерусалім. Па дарозе з ім здарылася нешта, што зьмяніла ўсё ягонае жыцьцё. Асьляпляльнае сьвятло агарнула яго. Ён упаў з каня на зямлю і пачуў голас, які казаў: Чаму ты прасьледуеш Мяне?

Павал ня мог зразумець, што з ім здарылася. Ён спытаўся: Хто Ты, Госпадзе? І пачуў адказ: Я Ісус,

якога ты прасьледуеш. Устань і ідзі ў горад. Там сустрэнеш вучня на імя Ананьня.

Ананьня спачатку не хацеў верыць, што Павал сустрэў Госпада і стаўся Ягоным вучнем. Але Госпад сказаў яму: Я выбраў Паўла, каб праз яго ўсе народы пазналі Маё імя. Тады Ананьня прыняў Паўла ў грамаду верных.

Ад таго часу Павал больш не прасьледаваў хрысьціянаў, але абвяшчаў Хрыста. У Дамаску і ў іншых гарадох ён навучаў, што Ісус Хрыстос зьяўляецца Збавіцелем. Ідучы з горада ў горад, ён прапаведаваў у гэбрайскіх школах і ўсюды закладаў новыя хрысьціянскія грамады. Ён рабіў усё, каб гэбраі, грэкі і ўсе народы зямлі сталіся ўдзельнікамі новага Народу Божага.

Паўла прасьледавалі ўсюды і праганялі з аднаго гораду ў другі. Ён пісаў лісты да новых хрысціянскіх грамадаў, якія ён пазакладаў, напамінаючы і заахвочваючы ўсіх і навучаючы, як трэба верыць у Ісуса Хрыста і як жыць пахрысьціянску. Наканец Павал быў арыштаваны ў Ерусаліме і пасланы ў Рым пад вартаю. Там ён быў асуджаны на сьмерць і памёр за Ісуса Хрыста. (Дзеяньні 9–28)

## 96. Павал піша да хрысьціянскіх супольнасьцяў

Ісус памёр, уваскрос з мёртвых і сядзіць на пасадзе па правай руцэ Бога. Ён заступаецца за нас. Дык хто нас зможа адлучыць ад любові Хрыстовай? Хвароба і бяда, голад і холад, прасьлед і сьмерць? Мы перамагаем усе гэтыя нягоды, бо Ён любіць нас. Я ўпэўнены, што няма такой сілы на сьвеце, якая б магла нас разлучыць з Ім. (Рым 8:34–39)

Вы верыце ў Ісуса Хрыста і таму вы – дзеці Божыя. Вы былі ахрышчаныя і таму належыце да супольнасьці Хрыстовай. У гэтай супольнасьці не



істотна ці ты гэбрай ці грэк, нявольнік ці свабодны, мужчына ці жанчына, бо мы ўсе адно ў Хрысьце. (Гал 3:26–28)

Радуйцеся заўсёды. Маліцеся безустанку. Дзякуйце за ўсё. Гэтага ўсяго Бог чакае ад тых, што вызнаюць Ісуса Хрыста. Адчынеце вашы сэрцы і розум дзеяньню Духа. Выпрабоўвайце ўсе рэчы: захоўвайце ўсё добрае і пазьбягайце злога. (1 Сал 5:16–22)

Любоў Хрыстова ўсеабдымная. Мы ведаем: Адзін чалавек памёр за ўсіх, каб тыя, што жывуць, не жылі больш дзеля сябе, але дзеля таго, хто памёр за іх і ўваскрос. (2 Кар 5:14–15)

Браты любыя! Цешцеся і імкнецеся да дасканаласьці, мацнейце духам; хай ня будзе сварак між вамі, жывеце ў супакоі, і Бог супакою і любові

будзе з вамі. Ласка Госпада Ісуса Хрыста, любоў Бога Айца і супольнасьць Сьвятога Духа хай будуць з усімі вамі. (2 Кар. 13:11,13)

## 97. Мы не жывем, як тыя, што ня маюць надзеі

Бог ёсьць той, хто дае жыцьцё. Усе жывыя істоты маюць жыцьцё праз Яго. Але дзён жыцьця нашага – семдзесят, а калі мы ў сіле – восемдзесят гадоў; і большая частка іх – гэта цяжкасьці і нягоды. Яны хутка прамінаюць, і мы зьнікаем. (Пс 90:10)

Усе людзі паміраюць. Многія пытаюцца: Ці ж сьмерць мацнейшая за Бога? Але тыя, што вераць, ведаюць, што жыцьцё Божае мацнейшае за сьмерць. Ягоная любоў усеабдымная. Адзін чалавек выказаў у малітве тое, што зьяўляецца надзеяй многіх: Ты не пакінеш мяне ў апраметнай і не дасі тым, што спадзяюцца на Цябе, заставацца ў магіле давеку. Ты настаўляеш мяне на шлях жыцьця. У табе знаходжу поўню радасьці і вечнае шчасьце па правай руцэ Тваёй. (Пс 16:10–11)

Апостал Павал піша: Браты, не сумуйце па тых, што памерлі, як тыя, што ня маюць надзеі. Бо калі Ісус, як мы моцна верым, памёр і ўваскрос, дык Бог праз Ісуса і з Ісусам прывядзе памёрлых да сябе. (1 Сал 4:13–14)

У прарокаў ізраільскіх сустракаецца выраз „Дзень Гасподні„. Так яны называюць дзень, калі прамінуць усе зямныя ўлады і прыйдзе Бог, каб сабраць людзей сваіх і ўстанавіць сваё валадарства. „Дзень Гасподні„ – гэта таксама „Апошні Дзень„ нашага прамінальнага сьвету. У той дзень Бог адновіць усё стварэньне, зьнішчыўшы ўсякую несправядлівасьць, грэх і цярпеньне. У той дзень неба загарыцца і зоркі расплавяцца ў агні. І прыйдзе тое, чаго мы ўсе чакаем згодна з Божым абяцаньнем:

новае неба і новая зямля, дзе ня будзе месца для несправядлівасьці. (2 Пят 3:12–13)

Вучням Ісуса не цярпелася. Яны спыталіся ў Яго: Скажы нам, калі прыйдзе валадарства Божае? Ісус адказаў: Ніхто – нават анёлы ў небе – ня ведае ні дня ні гадзіны; Сын таксама ня ведае, толькі Айцец. (Мц. 24:36; Мк 13:32)

Адно толькі магу вам сказаць: Будзьце чуйныя, бо ня ведаеце дня і гадзіны, калі Госпад прыйдзе. (Мц 24:42)

Калі Госпад усяго стварэньня прыйдзе зноў, каб споўніць усё, Ён будзе судзіць усіх жывых і мёртвых. Людзі пазнаюць тады, што ёсьць толькі адзін Госпад і адна любоў. Яны зразумеюць, што ёсьць толькі адно няшчасьце: быць пазбаўленым удзелу разам з Ім; і адна радасьць: быць з Ім заўсёды.

Апостал Павал піша: Бог прызначыў нас не на тое, каб мы адчулі Ягоны гнеў, але каб мы маглі асягнуць збаўленьне праз Госпада нашага Ісуса Хрыста. (1 Сал. 5:9–10)

Словы Ісуса да бацькі, які сумаваў па памёрлым дзіцяці: Ня бойся, толькі мей веру. (Мк 5:36)

### 98. Новы сьвет Божы.

Яснавідзец Ян бачыў у думках новы сьвет Божы. Вось што ён піша: Я бачыў новае неба і новую зямлю. Першае старое неба, як і старая зямля, прамінулі, і мора больш ня стала. Я бачыў Новы Ерусалім, які сыходзіў з неба ад Бога. І я чуў моцны голас, які казаў: Глянь, цяпер Бог жыве сярод людзей. Яны будуць Ягоным народам, і Ён будзе з імі давеку. Ён абатрэ ўсе сьлёзы з іхніх вачэй. Сьмерці больш ня будзе, ні жалобы, ні плачу, ні суму. Бо ўсё, што было, прамінула. І сказаў Той, хто сядзеў на пасадзе: Вось Я чыню ўсё новае. Дык прыходзь, Госпадзе Ісусе! (Адкрыцьцё 21:1–5)

# ЗЬМЕСТ

## З КНІГ СТАРОГА ЗАПАВЕТУ



## З КНІГ НОВАГА ЗАПАВЕТУ

**Ісус аздараўляе і навучае: зьмяніце жыцьцё ваша**



**Ісус навучае аб жыцьці з богамі і з бліжнімі**



**Памёр – пахаваны – уваскрос**



**Ісус заўсёды з намі**

